*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
6
ЛІСТАПАДА
1992 г.
№ 45 (3663)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 1 рубель. (Па падпісцы — 10 кап.)




З ПОШТЫ ТЫДНЯ

## МОЙ СУСЕД ЧЫТАЕ «ЛіМ»

Цудоўны чалавек мой сусед — Аляксандр Сяргеевіч Красько. Кандыдат тэхнічных навук, дацэнт, ён працуе ў Беларускай Дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі на кафедры тэарэтычных асноў электратэхнікі. З'яўляецца аўтарам некалькіх кніжак па электратэхніцы. Чытае студэнтам лекцыі па тэхніцы высокіх напружанняў. Свой курс спрабуе весці на беларускай мове. На жаль, аўдыторыя пакуль яшчэ не гатова засвойваць веды на роднай мове. Але Аляксандр Сяргеевіч не апускае рукі. У яго адзін дэвіз: трэба працаваць.

Працаваць ён умее. І не толькі галавой. У яго залатыя рукі і ён сам можа зрабіць практычна любы электрапрыбор. Напрыклад, днямі для супрацоўніцы кафедры ім было выраблена бра. Калі ж зайшла размова пра плату, Аляксандр Сяргеевіч прапанаваў «заказчыцы» падпісацца на «ЛіМ» для... самой жа сябе (дарэчы, сам майстар з'яўляецца сталым і зацікаўленым чытачом штотыднёвіка). Назаўтра супрацоўніца прад'явіла падпісную квітанцыю на «ЛіМ».

Думаецца, «ЛіМу» будзе прыемна ведаць, якія ёсць у яго прыхільнікі і патрыёты.

Яўген ГУЧОК,
старшы рэдактар выдавецтва «Народная асвета».

**АД РЭДАКЦЫІ. І сапраўды — прыемна. Прыемна, што застаюцца з намі нашы сталыя чытачы, і што з'яўляюцца новыя.**

**Падпіска ж на «ЛіМ» працягваецца. Да 15 лістапада ва ўсіх жадаючых ёсць магчымасць ўсталяваць самую трывалую сувязь з нашай газетай — выпісаць яе.**



Рэстаўрацыя Мірскага замка доўжыцца ўжо не адзін дзесятак гадоў. І ў незалежнай дзяржаве тэмпы аднаўлення замка, які мог бы стаць сімвалам нашага Адраджэння, застаюцца савецкімі. На мінулым тыдні, нарэшце, у адной з адрэстаўраваных вежаў адкрылася экспазіцыя. На ўрачыстасці прысутнічалі прадстаўнікі беларускага ўрада і паслы шэрагу краін. Жыхары і госці мястэчка ўбачылі тэатралізаванае прадстаўленне па матывах гісторыі Беларусі і самога замка, выступленні фальклорных калектываў «Крыжачок», «Неруш», «Харошкі».

У. ПАНАДА.



# ПАД БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЦЯГАМ...

## 300-годдзе архікатэдры св. Станіслава

Дрэннае надвор'е не сапсавала святочны настрой людзей, якія 7 кастрычніка прысутнічалі на ўрачыстай літургіі, прысвечанай 300-годдзю архікатэдры св. Станіслава ў Магілёве. Урачыстасці ў гонар гадавіны доўжыліся з 4 па 18 кастрычніка 1992 года. Дзякуючы вялікім намаганням пробашча касцёла У. Бліна, а таксама добраахвотным памочнікам, напярэдадні свята была праведзена вялікая праца па аднаўленні і рэстаўрацыі вонкавага выгляду будынка касцёла. Сябры Беларускай каталіцкай грамады рабілі рэстаўрацыю храма і пад пластамі фарбы раскрылі выключныя па прыгажосці фрэскі.

Святочную літургію адпраўляў Мітрапаліт Менскі і Магілёўскі арцыбіскуп Казімір Свёнтак разам з біскупам г. Влоцлаўка (пабрацім Магілёва) і шматлікімі гасцямі-святарамі з розных мястэчак Беларусі і замежжа. Былі асвечаны арган, прывезены з Галандыі, і памятны крыж у гонар 300-годдзя архікатэдры.

Свята мела нацыянальную адметнасць: трохметровы бел-чырвона-белы сцяг над уваходам у касцёл і сцягі з гербамі гарадоў Магілёўшчыны ўнутры храма. Гучала беларуская мова ў спевах хору, з вуснаў К. Свёнтака і іншых святароў.

На працягу двух тыдняў штодзённа адбываліся працэсіі, канцэрты арганнай музыкі і камернага хору г. Магілёва, набажэнствы па-беларуску, якія адпраўлялі мясцовы ксёндз і госці з Баранавіч, Менска.

10 кастрычніка госцем свята быў усім вядомы Тадэуш Кандрусевіч. Ён правёў урачыстую літургію па-беларуску з нагоды юбілею.

Незвычайна многа, па магілёўскіх мерках, было народу на адкрыцці выставы мастака Алеся Пушкіна, прысвечанай святу архікатэдры. Мастак з'яўляецца аўтарам мастацкай канцэпцыі рэстаўрацыі касцёла св. Станіслава.



У праграме ўрачыстасцей прайшла навукова - практычная канферэнцыя Беларускай каталіцкай грамады. У ёй прынялі ўдзел звыш 30 дэлегатаў ад сябрын грамады з усіх куткоў Беларусі.

17 кастрычніка ў Магілёў, у касцёл была дастаўлена скульптура Маці Божай Фацімскай (копія), 18-га адбылося яе ўкаранаванне.

Ігар ПУШКІН.
Фота А. ЛІЦІНА.
г. Магілёў.

НАРАДЫ

# СВАБОДНЫ АБМЕН ДУМКАМІ

На мінулым тыдні ў Мінску ў Доме кнігі адбылася рэспубліканская нарада рэдактараў газет і часопісаў «Нацыянальна-культурнае адраджэнне і сродкі масавай інфармацыі», якую наладзіла Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Вёў нараду міністр інфармацыі А. Бутэвіч, з дакладамі і паведамленнямі выступілі намеснік міністра інфармацыі І. Карэнда, намеснік Старшыні Савета Міністраў М. Дзямчук, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны А. Мальдзіс, доктар гістарычных навук Л. Лыч, намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека А. Вярцінскі, дэкан факультэта журналістыкі БДУ А. Слука, старшыня Саюза журналістаў Рэспублікі Беларусь Л. Екель і інш.

Адбыўся свабодны абмен думкамі па праблемах выжывання прэсы ва ўмовах рынку, гаварылася таксама аб культурным змесце друкаваных выданняў, падрыхтоўцы праекта закона аб друку, кадравым забеспячэнні рэдакцый газет і часопісаў.

КОЛАСАВЫ ЎГОДКІ

# Светач Адраджэння

У рэспубліцы шырока прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя 110-годдзю з дня нараджэння Якуба Коласа. Апафеозам іх стаў урачысты вечар, што адбыўся ў мінулую пятніцу ў памяшканні Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Адкрыў і вёў яго старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Зуёнак. Ён, у прыватнасці, зазначыў, што творчасць Я. Коласа аказвала, аказвае і заўсёды будзе аказваць жыватворны ўплыў на развіццё беларускай літаратуры. Больш таго, яна свайго роду люстэрка нацыянальнага жыцця. Няма сумнення, засведчыў прамоўца, што калі б нейкім чынам дайшоў да нас голас тых, хто будзе жыць на беларускай зямлі праз тысячу гадоў і яны б запыталіся, якія мы, цяперашнія беларусы, адкуль пайшлі, куды ідзём, да чаго імкнёмся, ім неабходна было б параіць прачытаць паэму «Новая зямля».

«Колас — знакаміты светач нацыянальнага Адраджэння, — сказаў В. Быкаў. — Шмат якія пакаленні беларусаў выхоўваліся на яго кнігах паэзіі і прозы, змалку беручы у свае душы ягоныя гуманістычныя меркі дабра і зла, нацыянальнага болю і людской памяркоўнасці, вучачыся сціплай, сардэчнай любові да несамавітай нашай зямелькі з яе лясамі-пералескамі, кавылякамі-рэчкамі ды няджужа ўрадлівымі палеткамі, любові і спагадзе да заўсёды пагарджанага і занядбанага мужыка-беларуса». Паэзію Я. Коласа В. Быкаў назваў паэзіяй шчырага пачуцця. Адзначыў ён і грамадзянскі подзвіг класіка нацыянальнай літаратуры, падкрэсліўшы, што Я. Колас адносіцца да ліку тых інтэлігентаў, якіх ужо цяпер мала з'яўляецца з народных нетраў, бо знікаюць і самі нетры. Тыя інтэлігенты ўвайшлі ў нацыянальныя і сусветныя культуры з сялянскімі мазалямі на руках, не аддзяляючы сябе ад народа, не выракаючыся матчынай мовы. Нацыянальная ідэя была для іх і выскароднай гуманітарнай ідэяй. Яны ажыццяўлялі яе як толькі маглі. Чаго гэта ім каштавала, цяпер добра вядома. Многім каштавала турмы, публічнай ганьбы. Коласу таксама дасталося нямала...

Янка Брыль, прыгадаўшы крылатае есенінскае: «Вялікае бачыцца на адлегласці», засведчыў: «Нясе яно ў сабе не толькі тое, што вялікае пазнаем на адлегласці ўсё лепш і лепш відаць. Ёсць яшчэ і такая ўласцівасць, што яно, вялікае, увесь час як бы расце. Мы гэта адчувалі і адчуваем па Янку Купалу, па Максіму Багдановічу, па Якубу Коласу», Якуб Колас, працягваў Я. Брыль, і цяпер узвышаецца над намі. Але не толькі таму, што ён высокаталенавіты і геніяльны, а таму што ён у сабе ўвасобіў усё беларускае, самае добрае ў самым шчырым, у самым вартасным значэнні.

Незабыўны воблік Я. Коласа — пісьменніка, грамадзяніна, чалавека —паўставаў таксама з выступленняў М. Лужаніна, А. Надсана, А. Адамовіча, І. Чыгрынава...

З хваляваннем слухалі прысутныя Данілу Міцкевіча (на вечары прысутнічаў і другі коласаў сын Міхась Канстанцінавіч).

НАШ КАР.

# Зоркі Янкі і Якуба

**22 верасня ў бібліятэцы ААН адбыўся вечар, прысвечаны 110-ым угодкам Янкі Купалы і Якуба Коласа. З кароткім словам пра нашых слынных песняроў выступіў пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН Г. БУРАЎКІН. Друкуем яго прамову.**

Кожнаму з нас лёс адводзіць свой зямны куток, дзе дае бясцэнны дар жыцця і непаўторную матчыну ласку, родную мову і святое адчуванне ўласнай годнасці. А вось неба над намі дае на ўсіх адно — неабдымнае і загадкавае, глыбокае і неспазнанае, адкуль зоркі свецяць, не зважаючы на дзяржаўныя межы і розніцу ў людскіх характарах, не слухаючыся грозных валадароў і не заўважаючы хуткаплынных змен.

Нібы адчуваючы нейкую віну за шматвяковую цяжкую і маркотную долю Беларусі, 110 гадоў назад Бог шчодра кінуў сваю зыркую іскру адразу ў дзве душы сялянскіх сыноў — і ў свет прыйшлі два нацыянальныя геніі, а на небасхіле культуры людства ўспыхнулі дзве найярчэйшыя зоркі беларускай літаратуры.

Людвіг Феербах некалі пісаў, што таленты заўсёды з'яўляюцца тады, калі ў іх ёсць гістарычная патрэба. Янка Купала і Якуб Колас і творчасцю, і ўсім сваім жыццём пацвердзілі гэта. Яны ўзнялі паходню свайго мудрага слова на пераломе сацыяльных эпох, у перыяд, названы першай рускай рэвалюцыяй, калі той-сёй з цароў і царанят ставіў смешнае, як на сённяшняе разуменне, пытанне: а ці ёсць такі народ — беларускі, а ці патрэбна такая мова — беларуская? Ёсць! Патрэбна! — разам з Максімам Багдановічам, Цёткай, Алесем Гаруном адказалі Купала і Колас і даказалі гэта перш за ўсё самім беларусам, а пасля і ўсяму свету. Ёсць народ, калі ён нараджае такіх геніяў! Патрэбна мова, калі на ёй можна ствараць шэдэўры!

Яны розныя, заснавальнікі новай беларускай літаратуры, і як асобы, і як творцы: парывісты, тэмпераментны, узнёслы Янка Купала; ураўнаважаны, дыхтоўны, падкрэслена рэалістычны Якуб Колас. Адзін — вястун і прарок, другі — летапісец і філосаф. І калі ў шчаслівым яднанні духоўнага і матэрыяльнага, што, дарэчы, дадзена зразумець, асэнсаваць і выказаць толькі нямногім, у першага наперадзе звычайна ідзе духоўнае, то ў другога — матэрыяльнае. Але ў абодвух пры гэтым пульсуе тонкае адчуванне душы чалавека і дакладнае веданне ягонага побыту, працы, узаемадачыненняў і ўзаемадзеяння з прыродай і зямлёй. Як і ва ўсіх геніяў, часовае ў іх зліта з вечным, нацыянальнае — з агульначалавечым, асабістае — з усялюдскім.

Зямны шлях свой яны завяршылі па-рознаму: адзін трагічна загінуў удалечыні ад роднай зямлі літаральна за два дні да ўрачыстага вечара, прысвечанага 60-годдзю; а другі адплыў у бяссмерце на плячах сяброў і правадыроў, трохі не дажыўшы да салідных 75 год. Але колькі ў іх было роднаснага і аднолькавага — і ў трывогах, і у парываннях, і ў горкіх развагах! Горача і самаахвярна любілі яны і пясчаную сваю зямельку, і цягавітага ды маўклівага братку — беларуса, і поўную хараства і замілавання матчыну песню.

Дзеля гэтай любові спазналі і перацярпелі яны і крывавыя пісягі царскай цэнзуры, і абразлівыя здзекі сталінскіх катаў, і палыновую гаркоту расчараванняў і адчаю. Бог даў ім рэдкі талент, але і дастаткова выпрабаванняў на трывушчасць і на адданасць Бацькаўшчыне. Можа, таму часам і здаюцца іх чыстыя зоркі дзвюма яснымі слязінамі.

Геніі могуць быць незразуметымі або недаацэненымі пры жыцці, але шчасце народнага прызнання і пакланення ніколі не абмінае іх, бо ёсць жа і ў свеце, у якім мы жывём, найвышэйшая справядлівасць. Яна можа запазніцца, але яна ёсць. І тады шчасце паэтаў становіцца шчасцем Радзімы, якой яны аддалі ўсё, што мелі, і нават болей таго.

Янка Купала і Якуб Колас пры жыцці паспелі адчуць народную любоў і ўдзячнасць. Ім пашанцавала: іх асабістае шчасце ўжо тады станавілася шчасцем Радзімы. Але толькі з гадамі пачынаем мы разумець усю глыбіню іх азарэння і вышыню іх узлёту...

І калі вам захочацца паўзірацца ў прасторнае неба духоўнасці, якое атуляе ўсіх нас і кліча да вышыні, успомніце, што ў сузор'і Аляксандра Пушкіна, Тараса Шаўчэнкі, Адама Міцкевіча, Уолта Уітмена ёсць і зоркі з простымі беларускімі імёнамі — Янка і Якуб. Пакланіцеся ім. Яны вартыя таго...

ВЯРТАННЕ

# Ці ж блага жыць на Святаянскай?

Горад Маладзечна, які апошнім часам актыўна самавызначаецца ў сацыяльна-эканамічных і культурных адносінах, паклапаціўся пра беларускі каларыт сваіх вуліц. Намаганнямі тапанімічнай камісіі гарсавета праспект імя Леніна названы Вялікім Гасцінцам, вуліца Калініна атрымала імя мастака Я. Драздовіча, былая Паўліка Марозава стала вуліцай Алаізы —па імені паэтэсы А. Пашкевіч (Цёткі). Замест дзяжурна-звыклых «Куйбышава» ды «Чырвонаармейская» з'явіліся назвы Святаянская, Купальская, Мястэчковая, Вольная, Калядная, Тапалёвая... Цяпер пра Маладзечна ўжо ніхто не скажа, як пра іншыя нашы гарады: маўляў, ідзеш, як па могілках...

Г. К.

ПАМЯЦЬ

# АХВЯРАМ ПІЛСУДЧЫНЫ

Насуперак вядомаму выслоўю, што чалавек памірае толькі аднойчы, яны зведалі смерць пасля смерці. Бо на працягу дзесяцігоддзяў замоўчвалася гісторыя іх барацьбы і пакут. Гаворка ідзе аб барацьбітах супраць польскіх акупантаў за вольную, незалежную Беларусь.

Беларускі нацыянальны рух на акупаваных Польшчай заходніх абшарах нашай Бацькаўшчыны аб'ядноўваў людзей розных палітычных перакананняў. Пэўныя плыні гэтага руху («левага» кірунку) падтрымліваліся Масквою. Масква ж часам правакавала іх на непрадуманыя дзеянні, вынікам якіх было ўзмацненне акупацыйнага тэрору супраць беларусаў і беларушчыны. А пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР тыя, хто лічыў сябе найперш беларусам, а ўжо потым камуністам, разам з сябрамі «Грамады», хрысціянскіх арганізацый, беларускіх культурніцкіх устаноў рушылі з канцлагера ў Бярозе Картузскай на Калыму і ў Курапаты.

А калі Масква памірылася з Варшавай і ў знак вечнай любові падаравала ПНР Беласток і іншыя нашы абшары, гаварыць пра польскі акупацыйны тэрор, пра пілсудчыкаў, акаўцаў і іншых злачынцаў увогуле было забаронена. Каб не псаваць адносіны між КПСС і ПОРП, СССР і ПНР. На жаль, і ў суверэннай Беларусі працягваецца тая ж палітыка. То тут, то там на нашай зямлі паўстаюць помнікі ворагам Беларусі — легіянерам Пілсудскага і ваякам Арміі Краёвай. А на ўшанаванне памяці патрыётаў сродкаў няма. Вярхоўнаму Савету і мясцовым уладам няма да гэтага справы.

Больш чым сціплы абеліск (да таго ж, з надпісам на расійскай мове) стаіць у мястэчку Косава, дзе ў 1927 годзе пілсудчыкі расстралялі мірную дэманстрацыю пратэсту супраць разгрому ўладам Польшчы Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Ушанаваць памяць патрыётаў прыехалі ў Косава на Дзяды 2 лістапада афіцэры Беларускага згуртавання вайскоўцаў, сябры БСДГ, ТБМ, Згуртавання беларускай шляхты, БНФ. Да абеліска быў ускладзены вянок, схілены бел-чырвона-белыя сцягі. На кароткім мітынгу бралі словы госці з Менска і мясцовыя людзі. Гэты ж рытуал быў паўтораны ў Бярозе Картузскай. Там таксама няма вартага помніка, таксама стаіць невыразны камень з надпісам па-руску. Відаць, варта зрабіць у Бярозе Картузскай нацыянальны мемарыял у гонар барацьбітоў за ўз'яднанне беларускіх земляў. Першы крок да ўтварэння такога мемарыяла — сам факт ушанавання памяці ахвяр на сёлетнія Дзяды.

В. БОГУШ,
спецкар. «ЛіМа».

# Зноў—«Дні культуры і навукі»

У 60—70-я «застойныя» гады на нашай Маладзечаншчыне бытавала добрая традыцыя: у раён прыязджалі вучоныя, пераважна геаграфічнага факультэта БДУ, аграрнікі, артысты-купалаўцы, а ў летні час — і тэатральныя калектывы Масквы і рэспублік тагачаснага СССР, якія былі на гастролях у Мінску. У г. п. Радашкавічах, калгасах і саўгасах з іх удзелам праводзіліся «Дні культуры і навукі», якія карысталіся вялікай папулярнасцю. Але па меры таго, як пад узрастаючы фармалістычны шум аб уяўных перамогах ва ўсім замірала творчае жыццё, заглухла і тая карысная, жывая справа.

І вось дырэктар Радашкавіцкага завода мастацкай керамікі Якаў Шафір, чалавек няўрымслівы, творчы і які хварэе не толькі за стан спраў у сваім калектыве, але і ва ўсім пасёлку, дзе нарадзіўся, вырас і зараз жыве і працуе, вырашыў пачаць адраджэнне той забытай традыцыі. Тым больш, што зараз не трэба пытацца дазволу на ініцыятыву ні ў якога райкампарта. Як лепш зрабіць, параіўся толькі з народным дэпутатам рэспублікі народным паэтам Беларусі, прафесарам Нілам Гілевічам. Кіраўніцтва завода запрасіла разам з ім вядомага вучонага, віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі Радзіма Гарэцкага, народнага паэта, таксама акадэміка Максіма Танка, народнага пісьменніка Янку Брыля, дырэктара Нацыянальнага навукова - асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны Адама Мальдзіса, міністраў замежных спраў Пятра Краўчанку і інфармацыі Анатоля Бутэвіча. Ніхто з іх не адмовіўся прыехаць, хоць і моцна занятыя. Тым больш, у кожнага з іх быў і свой інтарэс.



Янка БРЫЛЬ, Максім ТАНК і Радзім ГАРЭЦКІ ў музеі завода мастацкай керамікі.
Фота П. КАРПОВІЧА.

Радзім Гаўрылавіч у свой час меў дачыненне да выяўлення багацейшага радовішча глін «Гайдукоўка» і, натуральна, яго даўно цікавіла, што яно дае, як і якую прадукцыю з тае сыравіны вырабляць. Да таго ж керамісты ўжо шмат часу што называецца цярэбяць навуку наконт айчыннага дэколю, без якога нельга стварыць па-сапраўднаму прыгожыя вырабы з нашай выдатнай гліны.

Далёка ад лепшага стан здароўя Максіма Танка. Але ж у Радашкавічах праходзіла яго юнацтва, калі ён вучыўся тут у беларускай гімназіі імя Ф. Скарыны. І ўспамін на месцы, сустрэча з радашкаўцамі, сцежкі маладосці... Хіба ж можна адмовіцца ад такой радасці? І ён прыехаў.

Адам Мальдзіс у былой радашкавіцкай раённай газеце зарабіў свой першы кавалак хлеба. Тут і зараз у яго заўсёды нямала спраў.

Янка Брыль у гэтых мясцінах неаднойчы бываў разам са сваім найлепшым сябрам Фёдарам Янкоўскім, які ў вайну тут партызаніў, а пасля настаўнічаў, праз усё жыццё ўспамінаў і вусна, і пісьмова, у сваіх шматлікіх кнігах. Ёсць у народнага пісьменніка і творчая зацікаўленасць, каб дакрануцца душой майстра слова да дзіўных твораў майстроў керамікі.

— Нават прыгажосць золата так не натхняе на высокі і творчы роздум, як чароўнасць гліны, — мімаходзь заўважыў Іван Антонавіч.

Міністр замежных спраў кандыдат гістарычных навук Пётр Краўчанка рос і вучыўся непадалёку, у Маладзечне. І тады яго прыцягвалі Радашкавічы сваёй унікальнай гістарычнай і культурнай спадчынай.

Мясціны, дзе нарадзіўся і працаваў Янка Купала, імёны Ядвігіна Ш., Язэпа Драздовіча, Браніслава Тарашкевіча, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Аркадзя Чарнышэвіча, бесмяротны подзвіг вогненнага экіпажа Мікалая Гастэлы і многія яшчэ славутыя сыны Бацькаўшчыны заўсёды вабяць. Так, прыкладна, кажа і Анатоль Ізанавіч Бутэвіч.

У Ніла ж Гілевіча тут — яго выбаршчыкі, кожная сустрэча з якімі для яго — зарадка на працу ў парламенце.

У цэхах завода адбылося ў гасцей нямала цікавых сустрэч. Рабочыя не толькі адказвалі на пытанні, але і самі задавалі сустрэчныя, выказвалі справядлівую трывогу за стан спраў у нашай рэспубліцы і іншых краінах, стаўшых блізкім і далёкім замежжам. Найбольш пра тое, калі спыніцца рост цэн і пагаршэнне ўсяго жыцця, злачыннасць.

Шаноўныя госці наведалі музей завода, залы ўзораў вырабаў з гліны і дрэва, якія і зроблены, і выстаўлены з добрым мастацкім густам. Узаемная і вельмі цікавая гаворка працягвалася ў канферэнц-зале прадпрыемства, куды прыйшлі таксама і жыхары гарпасёлка. Уважліва слухалі яны выступленні гасцей — вучоных, літаратараў, дзяржаўных дзеячаў. У ходзе іх было адказана і на пытанні, пастаўленыя падчас гутарак з рабочымі і спецыялістамі ў цэхах і іншых участках прадпрыемства.

Расказаўшы пра дасягненні цікавыя напрацоўкі беларускіх вучоных, Р. Гарэцкі падкрэсліў:

— Наша рэспубліка багатая працавітым народам. У яе нетрах шмат карысных выкапняў. Але нам усім разам неабходна яшчэ так шмат зрабіць, каб яе лепш ведалі ў цывілізаваным свеце. І нам бы намнога лепей жылося. Для сапраўднага ж росквіту Беларусі ў нас ёсць усё.

Адам Мальдзіс даў абгрунтаванае тлумачэнне, як правільней зваць пасёлак: Радашковічы, як у афіцыйных дакументах, ці Радашкавічы (з націскам на а ў першым складзе), як вымаўляецца ў народзе. І з ім пагадзіліся.

Было выказана і нямала іншых прапаноў і просьб. Варта назваць хоць бы дзве. Першая. Яшчэ ў 1569 г. Радашкавічы атрымалі Магдэбургскае права, а значыцца, статус горада, адпаведныя прывілеі, свой герб, які быў пацверджаны ў 1792 г. А зараз нічога гэтага не маюць, на карце Беларусі значацца заштатным гарадскім пасёлкам. Між тым тут, акрамя завода «Белмастацккераміка», яшчэ два даволі буйныя заводы будаўнічых матэрыялаў, больш за 7 тыс. насельніцтва, у адной толькі СШ вучыцца 1100 вучняў, а ёсць і школа-інтэрнат. Сесія пасялковага Савета ўжо даўно хадайнічае аб вяртанні Радашкавічам статуса горада.

Другая прапанова — аб прысваенні Максіму Танку звання ганаровага Грамадзяніна Радашкавіч.

Мне прыемна паведаміць чытачам «ЛіМа» аб тым, што днямі гэта прапанова была разгледжана на сесіі гарпасялковага Савета народных дэпутатаў і аднагалосна званне «Ганаровы Грамадзянін Радашкавіч» прысвоена Максіму Танку і Адаму Мальдзісу.

Была таксама адзначана неабходнасць аднавіць у раёне правядзенне «Дзён навукі і культуры».

У апошнім дні, пра які апавядаю, прынялі ўдзел таксама намеснік старшыні райвыканкома Наталля Гайковіч і рэдактар «Маладзечанскай газеты» Аляксандр Хазянін.

**Вячаслаў ЛЯШКОВІЧ,**
**член Рэспубліканскай рады ТБМ, старшыня раённага савета ветэранаў.**

**ПАДПІСКА-93**

# «НН»—газета аўтарская

## Гутарка карэспандэнта «ЛіМа» з рэдактарам віленскай беларускай газеты «Наша Ніва» Сяргеем ДУБАЎЦОМ

**— Узяўшы сабе такую назву, ці бачыце вы сябе спадкаемцамі нашаніўства?**

— Ва ўсіх сэнсах (акрамя аднаго) газета робіцца там і такім самым чынам, як рабілася калісь. Справа, вядома, не ў механічным перайманні (хоць сітуацыі вымагаюць ад нас і гэтага). Старая «НН» для нас — узор шырокага мыслення, добрага густу і крытычнага аптымізму. Навацыя хіба ў тым, што мы яшчэ не заўсёды сягаем гэтага ўзору. У нас няма за плячыма класічных гімназій, па два універсітэты, няма і такіх фундатараў, як Магдалена Радзівіл ці Раман Скірмунт...

**— Дарэчы, як вы пераадольваеце фінансавыя цяжкасці?**

— Хутчэй не пераадольваем, а абмінаем. Нам дапамагае Новая Культурная Сітуацыя... Вы кажаце — адкуль у нас сродкі? Па шчырасці, не ведаю. Мабыць, адтуль, адкуль у нашай Бацькаўшчыны незалежнасць...

**— Што «Наша Ніва» прапануе чытачам у 1993 годзе?**

— Сталы чытач «НН», думаю, уяўляе сабе, чаго чакаць ад нашых рубрык «Гісторыя суб'екта», «Словы», «З усіх старон», «авс»... У планах рэдакцыі — проза і паэзія сучасных аўтараў. Як вядома, добрай прозы цяпер шмат, а друкаваць кепскую нам не дазваляе традыцыя. Мы не працуем з прадстаўнікамі так званай «масавай» прозы і паэзіі. Для гэтага ёсць дзяржаўныя выданні, а ў нас — праблемы з паперай. Гэта не значыць, што «НН» зусім не друкуе новых аўтараў. Наадварот... Некаторыя з нумароў газеты ў новым годзе будуць «тэматычныя». Назаву толькі некалькі тэм: «Спорт», «Мазыр», «III сусветная вайна»... Тэматычнасць дазволіць нам хоць неяк планаваць сваю працу і выходзіць нарэшце штомесяц перыядычна.

Я не буду пералічваць назвы канкрэтных тэкстаў, нагадаю хіба імёны сталых аўтараў. «НН» увогуле — аўтарская газета, асоба для нас важней за тое, пра што чалавек піша. Асоба — крытэрый усіх ці то філалагічных, ці то канфесійных, ці то палітычных схільнасцяў, хай сабе нават і супярэчлівых. Таму ўсе інфармацыйныя жанры ў «НН» прадстаўлены дзённікамі, лістамі, нататкамі, фантазіямі, імпрэсіямі, сненнямі, лістамі... розных канкрэтных людзей. А. Астраўцоў, У. Арлоў, А. Глобус, І. Бабкоў, А. Чобат ды іншыя. Яны пішуць пра ўсё, але зусім па-свойму і прафесійна. Ёсць яшчэ навукоўцы А. Дзярновіч, Г. Сагановіч, Юрась Шаўцоў... Будуць новыя тэксты Францішка Эн., Сяргея Паўлоўскага, Алеся Аса, Антона Сіюля... Дзеля поўнага пераліку наша гутарка магла б задоўжыцца.

**— Цяжкасці з прозай, але не меншыя цяжкасці — з крытыкай...**

— Гэта зусім бяда. Але чаму б нам не звярнуцца да летувісаў? У нас традыцыйна моцныя іншыя літаратурныя жанры, а ў іх — крытыка. Летувіскія крытыкі на старонках «НН» возьмуць удзел у рэцэнзаванні твораў нашай літаратуры. З імі вядуць дыялог і ангельцы, і палякі, і французы...

**— Вы сапраўды наважыліся надрукаваць «усяго Борхеса»?**

— Так, і з нумара ў нумар гэтую справу робім. Праблема ў тым, што пасля смерці пісьменніка засталіся творы, якія ніколі не друкаваліся. І цяпер мы вядзём перапіску з удавой Борхеса наконт публікацыі гэтых твораў у «НН». Цяжкасці звязаныя з тэксталагічнай апрацоўкай. Але, як паказваюць першыя спробы, калектыву рэдакцыі гэта пад сілу. Апрача Борхеса, мы мяркуем надрукаваць па-беларуску ўсяго По. У наступным годзе пачнём яшчэ некалькі праграм «поўных збораў твораў».

**— Борхес, По, Мілаш... Які крытэрый адбору?**

— ... а таксама Н. Сарот, Ш. Андэрсан, Ф. Туглас, Ш. Перо, Ж. Дзюбеле, Т. Венцлава, Б. Лесьмян, Дж. Сэлінджэр... Хто яшчэ? Як бачыце, крытэрый — усё, што цікавае і ў чым ёсць над чым падумаць.

**— У аднаўленай «НН» ужо ёсць свой дадатак...**

— «Вільня і Край» — штотыднёвік, які друкуецца двума накладамі: кірыліцай і лацінкай у Вільні і прысвечаны чыста віленскай тэматыцы, але гэта прадмет асобнай гаворкі.

**— Дзякуй за размову.**

# ХАЙ РАШАЕ ЧЫТАЧ

**20 кастрычніка, у дзень адкрыцця доўгачаканай сесіі Вярхоўнага Савета, на плошчу Незалежнасці прыйшлі і прыхільнікі апазіцыі БНФ, і прадстаўнікі «чатырнаццаці партый і рухаў» (аб'яднаных у «КК») — як яны самі сябе называюць, з відавочнай мэтай паказаць, «кто в доме (у сэнсе — на плошчы і ў Беларусі) хозяин». Прыйшлі сябры «КК» са сцягамі неіснуючых дзяржаў — СССР і БССР. Пакуль з ператворанага ў трыбуну армейскага грузавіка ў натоўп кідаліся небяспечныя словы, якія ўспрымаліся як заклік да збройнага захопу ўлады, да грамадзянскай вайны, нейкія маладыя людзі раздавалі прысутным улётку, якую вы бачыце на здымку. Што гэта? Правакацыя?**

**Хай чытач рашае сам...**



БѢЛАЯ РОССІЯ

БРАТЬЯ И СЕСТРЫ ! СООТЕЧЕСТВЕННИКИ !

Мы обращаемся к вам, оказавшимся, в силу разных причин, вдали от Родины, но сумевших сохранить в своем сердце священный пламень Великороссийского патриотизма. В это смутное время для нашего Отечества, мы Россияне должны найти в себе мужество и признать очевидное.

Беларусь – страна, давшая нам кров и хлеб, какой бы радушной ни была, никогда не сможет заменить нам нашу Родину – Великую Россию, Пора сказать себе правду. Страна – соседка, пусть даже самая прекрасная, никогда не станет роднее страны-Матери, ведь только мать может понять и простить блудного сына...

Более 200 лет мы пытались огнем, мечом и даже словом Господним внушить русичам-украинцам, литвинам-белорусам, что они всего лишь ветвь русского народа /великороссов/. Однако даже всяк отрок знает, что Киеву – 1500 лет, Полоцку – 1100 лет, а Москве немногим более 800. Когда крестили Киевскую Русь, наши предки /угро-финны, тюрки, позднее присоединились славяне/ к сожалению еще молились языческим идолам. Но за 200 лет мы так и не смогли приручить этих гордых европейцев, не сумели заставить преклониться перед их же святынями, но в стенах златоглавой Москвы.

Видимо, неправедный путь мы выбрали, братья! Но Бог милостив...

Дорогие соотечественники! Вспомните проникновенные слова замечательной русской песни:

..."А я в Россию домой хочу,
Я так давно не видел маму..."

Вспомните и осознайте – вас зовет Отечество, оно нуждается в вашей помощи. И только все мы вместе, объединенные Великой Идеей Покаяния, осмыслив все содеянное, сможем подняться из праха, возродить и обустроить нашу землю, очистить ее от "всякия скверны".

ИВАН, БЕРИ ШИНЕЛЬ, ПОШЛИ ДОМОЙ !...

Демократическая фракция Народно-православного Союза "Белая Россия"

# РАЗМОВА НА «ІНФАРКТШТРАСЭ»

**Уладзімір МЕХАЎ**



Ён СПЫНІЎ МЯНЕ на паркавай алеі. Гэтую шырокую, дагледжаную, заўсёды чысцюткую цэнтральную артэрыю ці не старэйшага зялёнага аазіса ў нашым усё болей задымленым і загазаваным Мінску даўно аблюбавалі для перадвячэрнявых мацыёнаў пенсіянеры. Бальшынёй заўчарашнія чыны — міністэрскія, вайсковыя, партыйныя,— яны і ў гадах трымаюцца самавіта, шпацыруюць спаважнымі купкамі, абгавораваюць вычытанае ў газетах ды пачутае ў тэленавінах і ў перадачах радыёстанцыі «Свабода» з інтанацыяй людзей, звыклых да павышанай паінфармаванасці, да пошуку ў інфармацыі падтэксту, да права на катэгарычнасць зробленых высноў. Але веку яны ўсё-такі немалога, здараюцца маюць узросту адпаведнае — нехта цераз інфаркт паваліў ужо, нехта цераз інсульт,— і, пасмейваючыся, самі ж называюць прагулкавы маршрут свой «інфарктштрасэ» — «вуліцай інфарктнікаў», калі на нямецкім «штрасэ» хто з чытачоў спатыкнуўся.

Мой далейшы ў гэтых нататках суразмоўнік таксама не здаравяка. Часам пачаў накульгваць — пад старасць стала падводзіць прастрэленая ў юначыя гады на фронце нага. Прыходзіць у парк, здараецца, бледнаваты, з сінечай пад вачыма — нелады ў яго і з сэрцам, пасадзіў за дзесяцігоддзі шчыравання ў кіраўнічых кабінетах. І, безумоўна ж, кепскага самаадчування, пахмурнасці твару, унутранай ссутуленасці дадае яму ўсё несусветнае, што адбываецца ў былой нашай чырвонай імперыі. То абураюць абвінаваўцы КПСС на пасяджэнні расійскага канстытуцыйнага суда. То гняце апошняя вестка аб дыскрымінацыі рускамоўных у Эстоніі. То ўгнявае тутэйшае, беларускае — скажам, выступленне Пазняка на сесіі парламента.

Тым надвячоркам яго таксама распірала і круціла. Знаёмы мы слаба, адно што здароўкаемся, але ён ведае пра мяне, што маю дачыненне да пішучай брацій, таму — як узрадаваўся:

— О, у час на вас натрапіў! Я чуў надоечы па радыё рэпартаж з плошчы Леніна, цяперашняй так званай плошчы Незалежнасці. З акцыі, што наладзіў восьмага верасня БНФ. Ну, калі хтосьці з вайскоўцаў даваў там незаконную беларускую прысягу. Дык перад імі выступаў Быкаў. Ён што, з глузду з'ехаў, звар'яцеў, старэючы, ваш Быкаў?

Васіль Быкаў для мяне — святая, апостальская постаць. Я не мог дазволіць размовы аб ім у гэткім тоне. Але не хацелася і гаварыць рэзкае ў вочы немаладому, са сваёй зразумелай тугой, зачэпленаму ў нечым непрытворна яму дарагім чалавеку. Адказаў, што рэпартажу, які яго ўзлаваў, не чуў, на плошчы Незалежнасці восьмага верасня не быў, прамовы Быкава таго дня не ведаю.

— Дык можаце паверыць, то прагучала прамова ваяўнічага нацыяналіста!

Рубануў, як знайшоў фармулёўку для запісу ў рашэнне бюро райкама партыі — дарма хіба шэраг гадоў узначальваў колісь адзін са сталічных райкамаў!

Я сказаў, што ўсё-такі не веру. Што занадта даўно і, лічу, досыць добра ведаю Васіля Уладзіміравіча. Нацыяналіст — то не пра яго. Калі ўжываць слова ў тым асуджальным сэнсе, у які яно ў нашай былой сістэме афарбавалася. Іншая рэч, ці правільна гэта, што азначэнне «нацыяналіст» вымаўляецца ў нас выключна з адмоўным, негатыўным напаўненнем. Быкаву балюча за васальнае становішча, у якім каторае стагоддзе знаходзіцца бацькаўшчына. Балюча, што на беларускай зямлі не гаспадыняй беларуская мова. Ён хоча, каб стала явай Купалава мара пра Беларусь, што займае «пачэсны пасад між народамі». Але ж ён не проціставіць сваё сыноўскае беларускае пачуццё хоць якому іншаму нацыянальнаму пачуццю. Наадварот, пры кожнай нагодзе дэманструе пашаноўнае стаўленне да нацыянальнага самаадчування ўсіх этнічных груп, што жывуць на Беларусі, да народаў суседзяў і больш аддаленых. Што ж кепскага ў асаблівай любасці да крэўнага — я не пра аднаго Быкава,— калі з яе не вынікае варожасці ці пыхі да ўзнятага з іншых каранёў? Абвостранае ўсведамленне прыналежнасці да роднага і цёмнае непрыманне ўсяго, што «не сваё»,— не тое самае.

Ды суразмоўнік як не чуў маіх пярэчанняў.

— Ваш вялікі гуманіст штосілы падтрымлівае БНФ. А ведаеце, як рабочыя на трактарным расшыфроўваюць гэтую абрэвіятуру — БНФ? Беларускія нацыянал-фашысты!

Я, мабыць, недвухсэнсоўна паморшчыўся — не люблю фальклору з душком. Нават калі папеўка ці показка падаецца як запісанае нібыта ад звышсвядомых рабочых ці перадавых жывёлаводаў. Ён заўважыў гэта і паспешна дадаў:

— Я — беларус, вясковы беларус паходжаннем.

Распачынаць з ім дыскусію, даводзіць няслушнасць таго, што ён шпурляў, рахубы не мела. Я мала веру ў ідэйную перакананасць, пазіцыйную прынцыповасць учарашніх партапаратчыкаў, маладзейшых за яго, пазнейшай генерацыі. У рэдакцыі, дзе колісь працаваў, помню, аднаму не самаму здольнаму і патрэбнаму газеце супрацоўніку зроблена была прапанова паступіць у партшколу. Галоўны рэдактар яшчэ выказаўся ў кампаніі работнікаў, якім давяраў, што гэта благаславёная ўстанова — партшкола: можна спіхваць туды няўмек, ад якіх цяжка пазбавіцца. То ў чарадзе роспытных гутарак, якія паступленню ў гадавальнік партслужбовага рэзерву папярэднічалі, ашчасліўленаму калегу давялося пабываць і ў будынку ЦК. І ваганні яго, згаджацца ці не згаджацца на прапанову, канчаткова развеяліся. Назаўтра ён усхвалявана расказваў:

— Заходжу там да сябрука свайго былога, яго ўзялі туды год таму інструктарам, а на стале перад ім адно пачак «казбеку», папярос самых дарагіх, і паперынка з чатырма, ну шасцю тэлефоннымі нумарамі. Павінен, сказаў, званіць у раёны, сабраць нейкія звесткі,— і то ўся яго работа на дзень. Зазірнуў яшчэ ў сталоўку іхнюю. Салата, разумееце, дванаццаць капеек каштуе, крупнік грыбны, дух — аж галава кругам, дваццаць дзве, бульба ў гаршчочках, ні ў адным рэстаране смакаты такой не гатуюць, пяцьдзесят чатыры. За няпоўны рубель папалуднаваў проста па-царску. Пайду, пайду ў партшколу, ужо без ніякага сумнення пайду!..

Божа літасцівы, падумалася мне слухаючы, да чаго яна дажылася, партыя! Вось з чым за душой запісваецца чалавек у будучыя яе, можна сказаць, місіянеры. Партыя, заснавальнікі якой, як бы з часам ні змянялася наша да іх стаўленне, кіраваліся, звязваючы з ёю лёс, не ўбогай меркантыльнасцю. Партыя, пра заранкавы світанак якой я колькі начытаўся — ды і сам напісаў — рамантычнага. Бульба ў гаршчочках стала яе вабікам. Хіба толькі гаршчочак той вымалёўваўся каму іншаму кватэрай у доме для прывілеяваных, ці пасадай, узыход на якую праз перавал партслужбовага быў карацейшы. Лічылася ж за норму, што прызямленне ў дырэктарскім, рэктарскім, міністэрскім, рэдактарскім, якім старшынёўскім крэсле больш надзейнае пры пераскоку праз колькі гадоў партыйнага чыноўнічання.

Але той, хто кідаў мне сярдзітае і кусліваe, быў з пакалення старэйшага. Якое атрымлівала партбілеты ў акопах. Для якога за словам «камуніст» у маладосці стаяла высокае і чыстае. Якому на пачатку службы ў партструктурах шчыра верылася, што знаходжанне на такой рабоце і цынічны разлік — з'явы несумяшчальныя. І ў адказ на пачутае ад яго я дазволіў сабе толькі заўважыць, што калі Быкаў падтрымлівае Народны фронт—гэта адно ўжо довад, што брыдкая расшыфроўка абрэвіятуры БНФ — глупства.

Ды зноў быў запальчыва перапынены:

— Вы з ім, як з пісанай торбай, з Быкавым! Газеты гэтыя халуйскія, дэмакратычныя вашыя, што перад Ельцынымі-Шушкевічамі на задніх лапках, цэлыя старонкі на інтэрв'ю з ім не шкадуюць. А мне яго кніжкі, праўду кажу, не падабаюцца. Зусім не падабаюцца!

Што да апошніх інвектывы, наконт кніг Быкава, то я ўсміхнуўся. На памяць узбегла забаўнае, што расказаў колісь незабыўны Рыгор Бярозкін. Ягоная маці мела не надта пісьменную, але надзвычай неабыякавую да палітыкі, асабліва міжнароднага маштабу, суседку. Паслухаўшы па радыё апошнія паведамленні і незадаволеная паведамленым дыктарам, тая магла выказацца так: «Ведаеце, мадам Бярозкіна, Францыя згубіла ў мяне ўвесь аўтарытэт!» Бярозкін разводзіў рукамі: «Бедная Францыя!» Тут была сітуацыя падобная. Была як бы падстава Быкаву паспачуваць: бяда, не падабаецца напісанае ім грамадзяніну, з якім я стаяў! Мала што прызнанае ўсім светам!

Што ж да кідання ў чый-небудзь адрас — выданняў, суполак, канкрэтных асоб — папроку ў халуйстве, дагодніцтве, то на гэта ў персон, кшталту раздражнёнага на той момант рыгарыста перада мной, маральнага права, лічу, няма. Хто-хто, а яны, седзячы ў штатах райкамаў, гаркамаў і вышэй, гэтак глядзелі тым, хто быў тады на Алімпе, у рот, гэтак старанна вышуквалі ў тых мудрасць, калі ў сапраўднасці там ёю і не пахла, гэтак баяліся сказаць што не ў поўнай, да коскі, да інтанацыйнага націску, адпаведнасці спушчанаму зверху вусным ці надрукаваным словам, што пасаромеліся б цяпер выстаўляць сябе разакамі праўды-маткі ў вочы ўладарам і дакараць некага ў прыслужніцтве.

Адзін з такіх, як мой у тыя хвіліны апанент, брат-блізнец яго па біяграфіі, па ўспрыманні і разуменні таго, што цяпер вакол адбываецца, неяк пры мне прыгадаў, што старшыняваў на пасяджэнні свайго райкамаўскага бюро, калі па камандзе вышэйшых інстанцый яно распраўлялася ў сярэдзіне шасцідзесятых гадоў з маімі знаёмымі, залічанымі сфабрыкаваным у КДБ праскрыпцыйным спісам у антысаветчыкі,— сярод тых журналістаў, літаратараў, кіношнікаў былі і члены партыі. Я слухаў, як ён і праз чвэрць стагоддзя паўтараў даведзеную яму тады для службовага карыстання лухту пра недурных, дасціпных, грэшных хіба толькі ў неасцярожных па тым свалачным часе выказваннях у застоллях людзей, і дзівіўся. Былы партыйны экзекутар выглядаў нязлым, дастаткова інтэлігентным мужчынам. Няўжо ж і праўда верыў, выключаючы з партыі саракагадовых жанчын, мацярок дарослых дзяцей, што яны, бывала, танцавалі голымі на стале, як тое нехта з цэкоўцаў са смакам намаляваў яму за звычайнае на оргіях распуснай дысідэнцкай хэўры? Сам у маладосці франтавік, няўжо так проста, не сумеўшыся, палічыў для сябе магчымым судзіць названага ці не першым у кэдэбоўскай праскрыпцыі колішняга афіцэра-сталінградца, там, на беразе Волгі, цяжка параненага і ўзнагароджанага?

Або помнае з аднаго рэспубліканскага пісьменніцкага з'езда. Верны сабе ў сваёй абсалютнай нядатнасці на прыстасавальніцтва Аляксей Карпюк сярод іншага выказаў тады з трыбуны здзіўленне, чаму ў дзяржаве ўсталявалася завядзёнка, што народу нічога не расказваецца пра чалавечае аблічча лідэраў дзяржавы. Вось Брэжнеў — які ён? Што любіць, што не любіць? У рабочай буднасці чаго найперш прытрымліваецца? Якую мае сям'ю? З кім сябруе? У Амерыцы калі выбіраецца прэзідэнт, дык яшчэ падчас выбарчай кампаніі пра яго колькі кніг выдаецца, колькі фільмаў выпускаецца. А тут заняў імярэк галоўны кабінеты краіны, дасведчанасці ж у народа пра яго адно прачытаны ў кароткім газетным паведамленні пералік яго ранейшых кабінетаў.

Трэба было бачыць, як у прэзідыуме з'езда збялелі, пачырванелі, пайшлі плямамі на шчоках партыйныя функцыянеры рознага рангу. Збаяліся даносу куды наверх у Маскву пра непрадухіленую, не задушаную імі яшчэ ў задуме выяву вальнадумнасці. І ўжо ж, зразумела, за гэты свой страх неўзабаве жорстка з Карпюком расплаціліся — выключэннем з партыі, узвядзеннем на яго, героя вайны, чорнага, гідкага паклёпу.

Я, вядома, унутрана напяўся. Заявіў таму, з кім гаварыў, што калі ён не прымае прэсы аднаго напрамку, то я — процілеглага: друкаванай прадукцыі накшталт мінскіх лісткоў гебельсаўскай школы «Мы и время», «Славянские ведомости», «Политика, позиция, прогноз», адкрыта шавіністычных маскоўскіх рупараў «Советская Россия» або «День». Падпусціў шпільку, што шкадаваў бы газетную плошчу на дэкларацыі Бабурына і Умалатавай, якіх ён дужа шануе, а не на важкае слова Васіля Быкава.

Нападчык адчуў маю напятасць. Распавёў размову спакайней. І я не мог з ім не пагадзіцца, калі ён доказна, з прафесійным разуменнем таго, што разбіраў, даводзіў бесперспектыўнасць некаторых эканамічных захадаў урада, абураўся парламентам з чарапашымі тэмпамі важных заканадаўчых рашэнняў ды перапалкамі на пасяджэннях на ўзроўні кухонных. Я не мог не пагадзіцца, што лёс Беларусі з лёсам Расіі занадта сплецены, адрываць краіну ад краіны то, зразумела, рэзаць па жывому,— зазначыў толькі, што супольніцтва дзяржаў стаяць павінна на іншым грунце, не на тым, які за сем слынных дзесяцігоддзяў акамянеў.

Ды ненадоўга хапіла апаненту спакойнасці. Нагрэўся зноў — і пайшло. Што ў «дэрмакратаў», вядома, нічога добрага не атрымаецца. Што былы Савецкі Саюз скаланецца хутка грандыёзным сацыяльным выбухам, грамадзянскай вайной з канца ў канец тэрыторыі. Ды ўсё гэта як бы са зларадаснасцю. Як бы не толькі прадказваючы, а і накліkaючы страшнае.

Уталкоўваць яму, што вялізазнае, на шостую часціну ўсёй зямной сушы сепамолатнае дзяржаўнае ўтварэнне знікла з карты свету таму, што калос той меў гліняныя ногі,— занятак марны. Для яго то вынік д'ябальскай змовы рознага адцення «прадажнікаў» і ЦРУ. Ён верыць, што сістэма, па якой тужыць, самасцвярджэнню якой прысвяціў жыццё, вернецца, усё роўна яшчэ вернецца.

Паводле ягонай жа метады магу прыляпаць яму ярлык — сталініста, таталітарыста, які з гэтага рада ні вазьмі. Падстава на тое ўга як відочная. Не хочацца. Пры рашучай з імі нязгодзе ў думках уважаю мне да такіх, як ён,— і спагада. То драма, нават трагедыя — схіл іх веку, крушэнне ўсяго, на што маліліся. Я ж таксама на тое доўга маліўся — сын партыйцаў, энтузіястаў дваццатых гадоў, што нарадзіўся ў створанай тады рагачоўскімі рабочымі-друкарамі камуне.

...Ён праводзіў мяне да выхаду з парку. Я развітаўся, а ён нялёгкай ступой пайшоў назад на «інфарктштрасэ» — высокі, худы, прыгорблены, з торгкімі жаўлакамі на скулах.

Я глядзеў яму ўслед і мазгаваў над этымалогіяй гэтага словазлучэння — «інфарктштрасэ». Я вышэй пераклаў яго «вуліца інфарктнікаў». Але ж можна перакласці страшней: «вуліца, што вядзе да інфаркту».

У стане непрымірымасці, падазронасці, нежадання разумець таго, хто думае інакш, не давесці б нам да інфаркту свой край!

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ




## Аляксандр ЧАРВЯКОЎ: ПОЗІРК ЗБЛІЗКУ

**Няма, бадай, патрэбы нагадваць, кім быў Аляксандр Рыгоравіч Чарвякоў у гісторыі нашай дзяржавы. А, між тым, кнігі, прысвечанай жыццю і дзейнасці гэтага выдатнага чалавека, дасюль, можна сказаць, не было. Цяпер жа «ўсебеларускі староста» паўстае са старонак успамінаў сучаснікаў, са старонак уласных артыкулаў, якія склалі зборнік «Аляксандр Чарвякоў: я ніколі не быў ворагам» (складальнік зборніка і аўтар прадмовы — В. Мыслівец).**

**Воблік А. Чарвякова паўстае неадрыўна ад складанага і супярэчлівага часу, у якім ён жыў. Бачыцца ён асобай, якая, хоць у сваіх дзеяннях і мысленні гэты час у многім і абганяла, тым не менш не магла цалкам вырвацца з яго путаў. Інакш кажучы, А. Чарвякоў няхай і ў меншай ступені, чым іншыя, але таксама нёс на сабе (і ў сабе) цяжар таталітарнай сістэмы. Знаходзячыся, як і многія, у палоне ўсіх гэтых «ізмаў», «класавых бітваў», ён вымушаны быў рабіць часам тое, што не сумленне падказвала, а вымагала партыйная ўлада.**

**Красамоўны прыклад. У Смілавіцкім раёне, як і ў іншых, калектывізацыя ажыццяўлялася паскоранымі (чытай: прымусовымі) метадамі і за два тыдні знаходжання там А. Чарвякова ў калгасы ўступіла амаль 80 працэнтаў сялян. Пройдзе час і многія з іх пачнуць прасіцца на прыём да Аляксандра Рыгоравіча, скардзіцца на высылкі, рэпрэсіі. Ён, па магчымасці, кожнаму дапаможа, адгукнецца на чужую бяду, успрыме яе, як сваю, і разам з тым будзе пісаць артыкул «За суцэльную калектывізацыю і за ліквідацыю кулацтва як класа».**

**Пазнаёмімся з дакладам А. Чарвякова на пасяджэнні Прэзідыума ЦВК Саюза 4 чэрвеня 1926 года аб дзейнасці ўрада Беларусі (пад назвай «Сучаснае становішча Савецкай Беларусі» апублікаваны вытрымкі). З задавальненнем старшыня ЦВК БССР канстатаваў, што «беларуская мова паступова становіцца мовай выкладання ва ўсіх школах, дзе вучацца беларускія дзеці, а ва ўсіх іншых школах уведзена як абавязковы прадмет», радаваўся, што «выпуск беларускай літаратуры... павялічыўся на 150 працэнтаў». Гэта набывалі размах працэсы беларусізацыі. набывалі не без яго, А. Чарвякова, удзелу. У той жа час у дакладзе ёсць і сцвярджэнні падобнага плана: «нацыянал-дэмакратызм у Савецкай Беларусі знаходзіць свой сацыяльны грунт у настроях буржуазнай верхавінкі сяла, палітычную ідэалогію якога ён аб'ектыўна прызваны прадстаўляць».**

**А з якой павагай ставіўся А. Чарвякоў да літаратараў! Як сам любіў літаратуру! Сведчыць дачка: «У нас была вялікая бібліятэка. Высяляючы з кватэры па вуліцы Леніна, энкавэдэшнікі вывезлі тры грузавікі кніг і часопісаў. Яны прапалі бясследна». М. Лужанін: «...абяцаў дапамагчы ў нашым пачынанні ўвесці асобныя літары для гукаў «дз» і «дж», што прапаноўвала літаратурнае аб'яднанне «Узвышша».**

**Чарвякоў жыў у сваім часе і належаў да людзей, якія заўсёды нечым у гэты самы час не ўпісваюцца... Шкада толькі. што цалкам з ім парваць яны не могуць. І найлепшае пацвярджэнне — пасмяротны ліст Аляксандра Рыгоравіча. Адчуўшы, што ён не можа нешта змяніць у лепшы бок. А. Чарвякоў рашыўся на самае апошняе... Рашыўся і... застаўся ў гэтым сваім часе: «Я пакідаю жыццё, праклінаючы ўсіх ворагаў народа, я праклінаю беларускіх фашыстаў, агентаў польскага імперыялізму».**

**Не нам судзіць А. Чарвякова, як не нам судзіць і іншых, хто жыў разам з ім. Адно права дадзена нам: лепей разабрацца, што за людзі яны былі. У гэтым і дапамагае кніга «Аляксандр Чарвякоў: ...я ніколі не быў ворагам».**

# Прыклад высокага служэння

### Да 80-годдзя з дня нараджэння Юльяна ПШЫРКОВА



У гэтыя дні, калі беларускі народ так высока і ўрачыста адзначыў стодзесяцігадовы юбілей класіка роднай літаратуры Якуба Коласа, як не згадаць пра тых, хто шмат зрабіў для навуковага вытлумачэння і папулярызацыі такой багатай творчасці народнага паэта. Сярод іх найперш — пра Юльяна Сяргеевіча Пшыркова, вядомага вучонага-літаратуразнаўцу, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара, якому ў гэтыя дні споўнілася б 80 гадоў. На жаль, споўнілася б: ён не дажыў да гэтай даты...

Глыбокі даследчык, нястомны вучоны-працаўнік Юльян Сяргеевіч Пшыркоў шмат зрабіў на ніве беларускай навукі. Вядомы чытачам і спецыялістам ягоныя літаратуразнаўчыя даследаванні «Якуб Колас. Жыццё і творчасць» (1951), «Трылогія Якуба Коласа «На ростанях» (1956), «Беларуская савецкая проза. 20-я — пачатак 30-х гадоў» (1960), «А. Е. Богданович» (1966), «Эпас рэвалюцыі» (1975), «Летапісец свайго народа. Жыццёвы і творчы шлях Якуба Коласа» (1982). Пшыркоў — адзін з аўтараў ранейшых падручнікаў па роднай літаратуры для сярэдняй школы, «Очерков истории белорусской литературы» (1954), «Нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры» (1956), «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (тт. 1—2, 1968—1969), «Истории белорусской дооктябрьской литературы» (1977). За апошнюю працу яму як кіраўніку, рэдактару, аўтару некаторых важных раздзелаў была прысуджана ў 1981 г. Дзяржаўная прэмія імя Якуба Коласа.

Сапраўдны вучоны-літаратуразнавец, крытык, як і пісьменнік наогул, павінен рабіць (і робіць) тое, што патрабуе сённяшні літаратурны працэс, што патрабуе час, яго духоўны змест і накірунак. Унутранае адчуванне патрэб, жывое пачуццё сучаснасці, што грунтуецца на гістарычна-канкрэтным аналізе літаратурных з'яў і фактаў у іх найцяснейшай суаднесенасці з жыццём народа, у высокай ступені былі ўласцівы творчасці Ю. С. Пшыркова.

Магчыма, найбольш гэтыя якасці выявіліся ў даследаванні складаных працэсаў і з'яў беларускай прозы 20-х — пачатку 30-х гадоў. Адкінуўшы спрошчаныя, вульгарна-сацыялагічныя схемы і ўяўленні папярэдніх гадоў у разуменні літаратуры, натхнёны глыбокімі духоўнымі, грамадскімі зрухамі 50-х гадоў, даследчык адным з першых па-новаму зірнуў на складаныя і супярэчлівыя, адначасна багатыя і плённыя гады ў развіцці нацыянальнай літаратуры, па-гаспадарску заклапочана, сумленна і дбайна паставіўся да многіх таленавітых прадстаўнікоў нашай прозы, незаслужана ў ранейшыя гады выкрасленых з нашай літаратуры, паказаў іх сапраўдную ролю і належнае месца ў літаратурным працэсе, непераходнае значэнне іхняй мастацкай творчасці. Больш таго, вучоны ў свой час шмат увагі ўдзяляў папулярызацыі творчасці пісьменнікаў, якія па тых ці іншых прычынах не дужа тады былі вядомыя чытачу. Ім напісаны артыкулы пра шматгранную, глыбока самабытную творчасць Максіма Гарэцкага, прадмовы і пасляслоўі да асобных твораў Міхася Зарэцкага, Барыса Мікуліча, Рыгора Мурашкі... І ў тым, што сёння гэтыя аўтары занялі належнае месца ў нашай літаратуры, ёсць немалая заслуга і Ю. С. Пшыркова.

Пшыркоў быў адным з першых і сярод тых, дзякуючы чыім клопатам і творчым намаганням усталявалася ў нашай навуцы аб'ектыўная ацэнка ролі і значэння ў нацыянальным адраджэнні на пачатку XX стагоддзя газеты «Наша Ніва». «Сваю асноўную задачу як даследчык я бачыў у тым, каб пакончыць назаўсёды з вульгарызатарскай фальсіфікацыяй гісторыі нашай літаратуры...» — зазначаў вучоны ў сваёй аўтабіяграфіі. Гэтую задачу ён выконваў мэтанакіравана, паслядоўна, паспяхова. І не толькі гэтую.

Шырыня погляду, грунтоўнае веданне мастацкай літаратуры, здольнасць улічваць своеасаблівасць канкрэтных мастацкіх з'яў, шчырыя клопаты, асветленыя яснай грамадзянскай думкай, пра духоўныя набыткі нашага народа, фактычная і ўнутраная эмацыянальная (што ідзе ад глыбокай перакананасці) доказнасць, пэўнасць вывадаў — якасці, уласцівыя Пшыркову-літаратуразнаўцу, лепшым яго працам.

У найбольшай ступені яны, відаць, выявіліся ў працах, прысвечаных Якубу Коласу. З шасці вышэйназваных найбольш грунтоўных даследаванняў чатыры звернуты непасрэдна да асэнсавання жыцця і творчасці народнага паэта. Творчасць Якуба Коласа, яго энцыклапедычная па сваім змесце, вялікай жыццядзейнасці пісьменніцкая постаць усё творчае жыццё былі ў полі зроку вучонага. Свой шлях у навуку ён пачаў з вывучэння класічнага твора нашай літаратуры — паэмы «Новая зямля». На рабочым стале дачасна памёршага даследчыка засталася ляжаць праца пра Я. Коласа.

# ВЯРТАННЕ Ў ДЗЯЦІНСТВА

**Дзіўна: Беларусь, якая здаўна славіцца сваім фальклорам, у тым ліку народнымі казкамі, легендамі, паданнямі, даволі сціпла выглядае, калі гаворка заходзіць пра арыгінальную дзіцячую літаратуру і найперш — пра літаратуру для школьнікаў. Вядома, тут адразу згадваюцца «Палескія рабінзоны», знакаміты «Міколка-паравоз», сёй-той з дзяцей яшчэ назаве «слаўнага ваяку Мішку», нехта — Несцерку (вядома, маючы на ўвазе спектакль, а не п'есу). І ўсё ж, баюся, гэтым героям нялёгка саперніцаць з героямі М. Носава, В. Драгунскага, Э. Успенскага, ужо не кажучы пра Тома Сойера ці Гекльберы Фіна М. Твэна, Эміля з Лённебергі А. Ліндгрэн альбо Алівера Твіста Ч. Дзікенса. Мала таго, усе вышэйзгаданыя творы беларускіх пісьменнікаў для дзяцей напісаны яшчэ да вайны, а «Палескія рабінзоны» наогул аж у 1929 годзе.**

**З другога боку, калі прыглёдзецца, наша дзіцячая літаратура не такая ўжо і бедная: ёсць у ёй прыгодніцкія творы і пра школьнае жыццё, і пра падарожжы, ёсць і фантастыка. Няхай сабе ім і не пад сілу пацясніць сабою сусветна вядомыя аповесці і раманы, але яны ўсё ж заслугоўваюць большай увагі. Праўда, на яе сёння цяжка разлічваць пры ўсё яшчэ невялікай колькасці беларускамоўных чытачоў, пры амаль поўнай абыякавасці да дзіцячай літаратуры і пры адсутнасці ўсялякага жадання прапагандаваць яе з боку крытыкі і, што таксама вельмі істотна, пры «нетаварным» знешнім выглядзе, на які нярэдка вельмі «шанцуе» кніжкам прозы, адрасаваным выдавецтвам «Юнацтва» школьнікам сярэдняга і старэйшага ўзросту.**

**Сёння бывае дастаткова адной з гэтых прычын, каб кніжка надоўга затрымалася ў кнігарнях.**

**Таму, купляючы невялічкі зборнічак апавяданняў і п'ес У. Сіўчыкава «Гульня ў тастамант», які нядаўна з'явіўся ў продажы, я, вядома, і не разлічваў, што за мною выстраіцца чарга. Зараз, калі стаў праблематычным сам выхад кніжак, неяк і не зусім сур'ёзна гаварыць пра дрэнную якасць паперы, і ўсё ж — о час! — вокладка тэматычнага плана выдавецтва «Мастацкая літаратура» на 1993 год у гэтым сэнсе выглядае куды прыстойней за вокладку кніжкі маладога пісьменніка. Зрэшты, і назва зборніка — «Гульня ў тастамант» — таксама не самая лепшая. Сяму-таму з юных чытачоў, верагодна, і захочацца даведацца, што ж гэта за слова такое — «тастамант» (слоўнікі да таго ж даюць «тастамент»), але многіх хутчэй за ўсё адштурхне гэтая «незразумелая родная мова».**

**Прызнацца, адкрываючы кнігу, я настроіўся на займальныя гісторыі, незвычайныя прыгоды і нечаканыя развязкі. Але, прачытаўшы адно за адным некалькі апавяданняў, расчараваўся. Ну, сустрэлі два браты на рыбалцы незнаёмца. Ну, паказаў ён ім месца, дзе добра клюе, а пасля яшчэ аддаў сваю рыбу (апавяданне «Ключ ад лодкі»). Як кажуць, знайшоў чым здзівіць! У другім апавяданні («Трава пад жвірам») чацвёра хлапчукоў цэлы дзень капаюць зямлянку, а на раніцу яе разбурае пастух Саўка, баючыся, каб не ўвалілася карова. Падрабязнае апісанне ўсяго гэтага, якое пераважная большасць юных чытачоў нецярпліва прапускае, час ад часу перабіваецца апісаннем мясцовасці ды размовамі і дыялогамі галоўных герояў. І так аж на 12 старонках! Вядома, у апавядання свае законы, свая жанравая спецыфіка, і займальнасць сюжэта далёка не заўсёды з'яўляецца абавязковай умовай яго поспеху. Але, з другога боку, трэба памятаць і пра дзяцей — чытачоў таксама вельмі спецыфічных.**

**Хіба што «Гульня ў тастамант» вылучаецца сярод іншых апавяданняў даволі арыгінальным сюжэтам і нечаканай канцоўкай. Расказваецца ў ёй пра хлапчука Феліцыяна, які ўсур'ёз цікавіўся старажытнымі шрыфтамі і быў неблагім каліграфам. Карыстаючыся гэтым, ён вырашыў разыграць свайго сябрука: склаў «старажытны» тастамант, «пісаны ў року 1660, марца 23 дня» і падмануў таго, што знайшоў тастамант у бібліятэцы ў вокладцы старажытнай кнігі. Даверлівы сябар адразу згадзіўся ісці шукаць скарб, які паводле тастаманту павінен быць закапаны на беразе Свіслачы каля Траецкага прадмесця. Фінал апавядання трагічны. Капаючы яму, хлопцы сапраўды на нешта натрапілі. «Раптам палыхнула, яма асвятлілася зыркай маланкай, і яе халоднае анілінавае святло на імгненне выхапіла з цемры паўзацярушаны зямлёю пашкоджаны кабель». Феліцыян загінуў.**

**Але і гэтаму апавяданню, думаецца мне, не пашкодзіла б большай дынамікі і аўтарскай фантазіі.**

**І ўсё ж нешта замінала мне адкласці кніжку ўбок і рабіць пэўныя вывады. Нарэшце зразумеў: такая манера апавядання выбрана аўтарам знарок, а не ад беднасці пісьменніцкай фантазіі. Перад намі творы, якія вымушаюць не лёгкага, павярхоўнага чытання, а, наадварот, уважлівага і ўдумлівага. І ўвогуле, нягледзячы на паметку «для сярэдняга школьнага ўзросту», апавяданні У. Сіўчыкава не столькі для дзяцей, колькі пра дзяцей і адрасуюцца не пэўнаму нейкаму ўзросту, а найперш пэўнаму стану душы. Гісторыі, якія расказвае пісьменнік, цяжка пераказваць, паколькі менавіта дзеяння ў іх вельмі мала і пры пераказе яны — без дыялогаў, без шматлікіх апісанняў — шмат страчваюць.**

**Так, у апавяданні «Над вадаспадам» расказваецца пра хлапчука, які познім вечарам пакрыўджаны ўцякае з дзядзькавай хаты, выпадкова падслухаўшы, як той гаварыў пра яго маці: «Што гэта за праца? Цэлымі суткамі не бывае дома. Хлопец вунь ходзіць недагледжаны... Не трэба было нараджаць бязбацькавіча...». «Нічога не буду казаць,— вырашае Марцін.— Сыду лепш паціху. Хай сабе думаюць, што сплю. Падымуцца заўтра, глянуць. а мяне няма. Хай тады пашукаюць, хай пабегаюць!» Здавалася б, пасля такога інтрыгуючага пачатку далей не можа не адбыцца нечага незвычайнага, магчыма, нават неверагоднага. Але якраз нічога асаблівага далей не адбываецца. Хіба што эпізод, калі Марціна на аўтобусным прыпынку ледзь не пабілі «пэтэвэшнікі», але на дапамогу прыйшоў незнаёмы мужчына. Ды не на гэты эпізод ці які іншы робіць акцэнт аўтар. Яго больш хвалюе ўнутраны свет хлапчука, яго крыўда, яго перажыванні і няпростыя пытанні, на якія шукае адказ Марцін. Пытанні, якія неадступна праследуюць цябе, калі цяжка і хочацца плакаць, але тут жа некуды знікаюць, як толькі суцішыцца боль і пасвятлее на душы: «Прадчуванне нечага добрага і надзвычай радаснага нарастала. Хлопец глыбока ўдыхнуў водарнае прахалоды і надзіва ясна адчуў сябе паяднаным з усім гэтым вяснова-сонечным светам. Згрызоты і сумненні мінулае ночы адышлі некуды далёка, падаліся дробязнымі і не вартымі асаблівае ўвагі».**

**Апавяданне «Трава пад жвірам», пра якое я ўжо згадваў у пачатку рэцэнзіі, таксама быццам бы «ні аб чым». Але, надаючы вялікую ўвагу дэталям, падрабязна апісваючы працу хлапчукоў, пісьменнік падкрэслівае, як нялёгка яна ім давалася, гэтая зямлянка, з якой любоўю, з якой ахвотай яны яе будавалі, патраціўшы на гэта цэлы дзень. І вось усяго нейкая гадзіна — і «на месцы нядаўняга пагорка засталася неглыбокая яміна. На дне ў**

Уладзімір Сіўчыкаў. Гульня ў тастамант. Мінск, «Юнацтва», 1992.

Яўгенія ПФЛЯЎМБАЎМ



## Мне слова трэба для жыцця...

●

Ценяў карункі з жыццёвых прысадаў
Раптам адродзяць у вобраз жывы...
Стрэча адна, непаўторны выпадак,
Сонца высокае, лес баравы.

Сэрца ўглядаецца ў гэты малюнак —
Цёплыя рукі былі ў мастака...
П'ецца ён, льецца — той вобраз, як трунак,
Але мая занямела рука.

Гэтыя згадкі, як радасці выбух:
Полымя ўспышкі, і цёмна наўкол...
Але рука анямелая, нібы
Шчасце ў далоні трымала, як тол.

Ранне змяло ўсе начары начныя,
Ціхая неруш у кволай душы,
Толькі радок мой не складзены ные:
Ты анямелаю павярушы.

●

Ёсць людзі людскія. Яны
Гадуюць радасць свету.
Здалёк нікому не відны,
Чутны ж на ўсю планету!

Разумны скажа: — Іх няма,
Ці аднаго хоць стрэла!
Калі сустрэнеш, затрымай
І запытайся смела:

— Мне слова трэба для жыцця,
Каб жыць, мне трэба слова.
Тут зразумее і дзіця:
Няхай адну палову
У слове тым жыве дабро,
І да таго ж замова
Ад злога,
Ад старога,
Што нам
Запасіць змрок.

●

Дзень мінаецца, як заўжды.
Сумнаваты павявае вецер.
Я не верыла ў сады
З ружовым веццем.

Скрозь бывае:
Як чакаем,
Так і маем.

●

Зноў надзея зелянее
Так, як дрэва па вясне.
Веснавая асамблея,
Не забудзься пра мяне.

Расцвітае ўсё жывое
Без падмогі дбайных рук,
Першай краскай агнявою,
Адратоўчаю травою,
Што для сэрца я бяру.

Горкі сродак сэрцаедаў —
Гэта наквець на зямлі,
Дзе, як госць, ты паабедаў...
А вячэру! Ці далі!

●

Нязмушана пісаць і затужыць з прыгадкі:
Увесь душы пасаг — спустошаныя спадкі.
Вясна не толькі ў снах —
Цвітуць заложна слівы,
Галіны лашчаць дах,
Скрозь белыя разлівы.

●

— Я неабудна, доўга піў...
— Навошта, дзе? Хто аплаціў?
— Ды задарма, як быццам.
— Незразумела!
— Я любіў...
Цяпер усё, сястрыца.

### Вымаганні да верша

Павінен голас мець найперш —
Тады музычны будзе верш,
Прыдасца ён вакалу,
Каб песня святкавала.

А то ж які без песні фэст,
Але патрэбен вершу змест,
І без адмовы слова,
Што заспяваць гатова.

А словам з поўнага каша
Яшчэ патрэбна і душа
І водгалас зычлівы,
І сонечныя нівы.

Нібыта ўсё... А не гучыць —
Не ўмеем сэрца берагчы.

●

Ну, што ж, падумаем яшчэ,
Калі сумленне не пярэчыць,
Калі слязіна не цячэ
І калі сэрца бачыць стрэчу.

Каханне гэта ці змаганне
З дзіўной навалай пачуцця,
Ды да фіналу вельмі мала...
А ці патрэбен мне працяг!

Леанід ЛЕВАНОВІЧ



# СУСТРЭЧА

Апавяданне

I

У ТЭЛЕФОННАЙ ТРУБЦЫ праз шум і трэск пачуўся прыглушаны жаночы голас: «Алё! Алё!»

— Добар дэн!—на балгарскі манер прамовіў я. — Будзьце ласкавы, запрасіце да тэлефона Івана, — сказаў па-беларуску.

Жанчына нешта буркнула, і ў трубцы пачуліся кароткія гудкі.

«Няўжо не туды трапіў? Ясна, што гэта не Марыя. Мабыць, яе свякруха. Але чаму павесіла трубку?» — разважаў я.

Перад ад'ездам з Мінска атрымаў ад Марыі ліст. Яна прасіла пазваніць па тэлефоне, і мы абавязкова сустрэнемся. Учора, у суботу, я таксама прыходзіў на пошту, шмат разоў набіраў нумар, але тэлефон маўчаў.

Разгублены, выйшаў я з кабіны.

— З вас пяцьдзесят дзевяць стацінак, — сказала хударлявая цёмнавалосая загадчыца пошты.

— Не дазваніўся. Відаць, не туды трапіў. Нешта незразумелае, — сказаў я.

— Дайце ваш нумар. І заходзьце сюды.

Загадчыца ўзяла маю паперку з тэлефонам і адрасам. Гэтую паперчыну я падаваў ёй і ўчора. Тады яна накіравала мяне ў другую кабіну. З гэтай самай кабіны я спрабаваў дазваніцца і сёння.

Тым часам загадчыца ажыўлена гаварыла па тэлефоне, я разумеў большасць яе слоў. Выразна пачулася: «многовоспитанный човек»... Гэта значыць — я. Жанчына тлумачыла, як даехаць да нашага паселішча, адшукаць кватэру, дзе мы жылі. Потым перадала трубку мне.

— Здароў зямляк! Я так рада, што вы прыехалі. Добра, што пазванілі...

Марыя сказала, што Іван у камандзіроўцы ў Сафіі, вернецца праз два тыдні, што яна можа прыехаць у наступную суботу.

— Колькі з мяне за размову? — спытаўся ў загадчыцы пошты.

— Вы ўжо расплаціліся, — адказала яна.

Я шчыра дзякаваў незнаёмцы за дапамогу. Яна слухала мяне і ўсміхалася, яе стомлены хударлявы твар увачавідкі маладзеў, святлеў, а цёмна-карыя вочы свяціліся цёпла і ласкава.

«Свет не без добрых людзей», — думаў я, ідучы з пошты.

Згадаў, як у Мінску завіталі да мяне Іван ды Мар'я. Гэта быў іхні першы прыезд на Беларусь як мужа і жонкі — балгарына і беларускі.

Быў жнівеньскі вечар. Жонка з дзецьмі адпачывала ў вёсцы. Мне давялося аднаму сустракаць замежных гасцей. Наварыў маладой бульбы, насмажыў грыбоў, меліся гуркі, памідоры. Што ні кажы, жнівень — месяц багаты, гэта не Пятроўка-галадоўка. Знайшлася, вядома, і пляшка з белай галоўкай. Гарэлка прадавалася тады без чаргі і без талонаў.

Іван расхвальваў бульбу, грыбы. Пасля першага тоста за сустрэчу, ён самастойна адпіваў з чаркі маленькімі глыткамі. «Я па-булгарску», — шчыра ўсміхаўся госць.

Марыя цвіла ад шчасця. Яе густыя цёмныя валасы, здаецца, зрабіліся яшчэ гусцейшымі і цямнейшымі — высокай пышнай каронай яны былі ўкладзены на галаве. Марыіна прычоска — мабыць, першае, што кінулася ў вочы госцю з сонечнай Балгарыі. Ды і твар яе прыгожы: шыракаваты, з мяккім падбародкам, выразна акрэслены рот, у меру поўныя губы. Праўда, нос быў даўгаваты, выгнасты. Але затое вочы — невялікія. залаціста-карыя, так ласкава пазіралі з-пад доўгіх вейкаў, а над імі, быццам дугі, тонкія цёмныя бровы.

«Не, губа не дура ў замежнага госця», — думаў я, цішком любуючыся зямлячкай.

Калі развітваліся, Іван усё паўтараў: «Я много п'ян», хоць мы ўтраіх не дапілі паўлітэрку.

І гэтае «много п'ян» выразна прыгадалася, калі я пачуў на пошце па тэлефоне: «многовоспитанный човек».

Я добра ведаў, як пазнаёміліся Марыя з Іванам.

Марыя працавала ў дзіцячым садку выхавацелькай. У той садок мы вадзілі сваю дачку. Праз нейкі час Марыя і мая жонка пасябравалі. Аднойчы яна завітала да нас, усхваляваная, нейкая памаладзелая, рашучая:

— Ці ведаеце што? Разводжуся са сваім п'янтосам. Паеду ў Балгарыю. І сына бяру з сабою...

II

А гісторыя атрымалася вось якая.

Красавіцкім днём дзеткі старэйшай групы ішлі да помніка Леніну. У руках яны неслі сціплыя букецікі: у каго нарцыс, у каго цюльпан ці галінка вярбы.

Ішлі яны па двое, трымаючыся за рукі. Я не магу глядзець без хвалявання на гаманлівы строй малых дзяцей. Вясёлыя, бесклапотныя, прыстойна, чыста апранутыя — кожная матка вылузваецца са скуры, каб яе дзіця было апранута не горш, чым суседскае.

Дык вось глядзіш на малых, радуешся, і заўсёды трывожная думка точыць сэрца: кім яны будуць? Мо вунь той саплівы карапуз стане акадэмікам, а танклявая пігаліца з вялікім касніком у русявай касіцы — будучая мнагадзетная маці. А вунь той віхрасты, які тоўхае суседа, вырасце бандзюгам...

Чаму з добрых і ласкавых маленькіх дзетак вырастае гэтулькі нелюдзяў? Мабыць, кожны бярэ свае ўрокі ў вялікай і суровай школе жыцця. І ў кожнага свае гены, свой характар. Дзіця — не кавалак гліны, з якога можна ляпіць што хочаш.

І вось прыйшлі дзеткі да помніка, паклалі свае букецікі, пастаялі крыху. Дзве выхавацелькі пачалі іх выстрайваць, каб пераходзіць вуліцу. А ля помніка, трохі воддаль, стаяла група замежных турыстаў. Усе яны з цікавасцю пазіралі на дзяцей.

— Юрасік, не дурыся. Бяры Анжэлку за руку. Пойдзем ужо, — Марыя пацягнула да агульнага гурту віхрастага карапуза і ў гэты час пачула:

— Извинитэ, пожалуйста, можно вас просит?

Марыя павярнулася. Перад ёй стаяў сярэдняга росту смуглявы мужчына і разгублена паўтараў:

— Извинитэ, пожалуйста. Как вас зовут?

— Мяне? Марыя. А што?

— Вы очен, очен похожи на мою бывшую жену... Она умерла.. Сем лет я живу без нее... І вы замужем? Вы счастливы?

— У мяне ёсць сын. І муж... — а наконт шчасця Марыя нічога не сказала.

Малеча акружыла сваю выхавацельку і незнаёмага дзядзьку. Другая выхавацелька не ведала, што ёй рабіць, адно сачыла, каб ніхто з малых не выбег на дарогу.

Група інтурыстаў пакіравала да чырвонага касцёла, што побач з Домам урада.

— Мария, позвонитэ мне, пожалуйста, в гостилицу. Много прошу. Тут тэлефон, — ён сунуў Марыі ў руку паперчыну.

— Не, не буду я званіць,—захітала галавой Марыя.

— А можно мне позвонит? Пожалуйста, дайтэ ваш тэлефон.

— Не трэба. Навошта гэта? — аднеквалася Марыя.

— Мне очен хочется с вами поговорит. Еще вас увидет. Меня зовут Иван. Я имею свой дом в Болгарии. Живу с мамой. Я тоже имею сына... Скажите ваш тэлефон. Я запомню...

Марыя адчувала няёмкасць становішча, і каб неяк адкараскацца ад настырнага іншаземца, сказала нумар тэлефона і калі можна званіць. Сказала толькі дзеля таго, каб адчапіцца.

Потым ён пазваніў, запрашаў на сустрэчу. Марыя адмовілася. Увечары прыйшла дамоў. Сын Валерык глядзеў мульцікі, урокі не зрабіў. Бацькі, як заўсёды, не было.

Жыла Марыя ў аднапакаёвай кватэры-хрушчоўцы з туалетам у ванным пакоі.

Муж прыйшоў позна, п'яны, заваліўся на тахту і захроп.

Марыя доўга сядзела на кухні. Вочы яе былі мокрыя ад слёз.

Іван зноў пазваніў ёй у садок, зноў прасіў сустрэцца. І яна згадзілася.

Неўзабаве Іван паехаў у Балгарыю і слаў ёй адтуль лісты. Потым прыехаў зноў. Так працягвалася два гады.

Ніяк не магла Марыя адважыцца на пераезд за мяжу. У госці яна з'ездзіла ахвотна. А вось паехаць у Балгарыю назусім — не магла.

Сястра, якая жыла ў Мінску, угаворвала:

— Едзь, хоць пажывеш па-людску. А то ў гэтай аднапакаёвай клетцы і звякуеш. А там уласны дом. Фрукты якія хочаш... Іван чалавек харошы. Кідай свайго п'янтоса і едзь. Будзеш жыць прыпяваючы...

Марыя разумела: сястра разважае лагічна. Яна і сама думала і разважала прыблізна гэтак. А вось сэрца не прымала гэтай логікі, душа не хацела жыць прыпяваючы на чужыне.

Маці ў вёсцы адразу сказала так:

— Дачушка, дык ты саўсім хочаш з'ехаць? — і, памаўчаўшы, дадала: — Я і паміраць буду, дык не зможаш адведаць. Гэта ж табе не Мінск ці Пухавічы. Села на электрычку і праз якую пару га-

МУЗЫКА

# „КАМЕРАТУ“ ЖЫВІЦЬ ПОШУК

У БЕЛАРУСКІМ мастацтве з'явіўся калектыў, які, на маю думку, па наватарстве не саступае сусветна прызнаным першапраходцам пачатку нашага стагоддзя (а часта знаходзіцца і пад уплывам іхніх пошукаў), які ўвачавідкі пракладае новыя шляхі ў творчасці. Я маю на ўвазе мінскую вакальную групу «Камерата» на чале з Алегам Шыкуновым. Паколькі для айчыннай публікі часта больш уплывовае значэнне мае то, як прымаюць калектыў за акіянам, чым асабістыя ўражанні, пачнём гаворку пра «Камерату» з яе леташніх выступленняў у ЗША.

Расказвае кіраўнік ансамбля А. ШЫКУНОЎ:

**— Нас там прымалі так, як тут нідзе ніколі не прымалі. Мы бачылі, як людзі пасля некаторых кампазіцый апладзіравалі стоячы. Прычым найбольш пасляхова там праходзілі самыя складаныя авангардныя кампазіцыі, якія тут, дарэчы, успрымаюцца горш.**

**Мы выступалі ў вышэйшых музычных школах накшталт нашых музычных вучылішчаў і ва універсітэтах. Вы можаце сабе ўявіць, што такое музычны факультэт ва універсітэце, напрыклад, у невялікім гарадку Грылі, пра які мы нават не ведаем, што такі існуе? Гэта факультэт, які мае 5 вялікіх хораў, 2 сімфанічныя аркестры, 4 вакальныя джазавыя групы, духавы аркестр. Прычым, усе яны маюць свае запісы, пласцінкі, відэакліпы. Зала ў іх такая, што яе можна параўнаць па акустыцы і памерах з Вялікай залай Маскоўскай кансерваторыі — лепшай канцэртнай пляцоўкай былога СССР. І гэта толькі на адным факультэце! А ў гарадку, дзе 75 тысяч насельніцтва, тры такія універсітэты!**

**І вось прыязджаем мы, нікому не вядомая вакальная джазавая група (а ў іх, нагадваю, толькі на адным факультэце 4 джазавыя групы) — нас праводзяць па іх рэпетыцыях, занятках, мы бачым у класах такую апаратуру, якую дай Божа нам прыдбаць у канцы жыцця. Узровень тэхнічнага аснашчэння і педагогікі вельмі высокі — і нам перад такой аўдыторыяй выступаць са сваёй ніштаватай апаратурай, з таннымі шнурамі і старымі мікрафонамі! Але... Пасля трэцяга нумара зала ўстае, моўчкі слухае і апладзіруе стоячы. «На біс» патрабуюць ледзь не кожны нумар, імкнуцца штоколечы падараваць, сказаць добрыя словы. Усё гэта дае вялікае задавальненне і сведчыць пра тое, што хоць тэхнічнага забеспячэння ў нас няма, ды ідэі ёсць. На жаль, «дома» іх не цэняць, і разлятаюцца яны па свеце...**

Да гэтай праблемы мы яшчэ вернемся, а зараз некалькі слоў пра творчую біяграфію ансамбля «Камерата». Ён створаны ў Мінску ў 1986 г. з музыкантаў розных спецыяльнасцей: дырыжораў-харавікоў і піяністаў, музыказнаўцаў і народнікаў. Таму і назвалі яны сябе гэтак, накшталт фларэнтыйскай камераты — згуртавання скульптараў, архітэктараў, музыкантаў. Тыя ў 17 ст. аб'ядналіся, каб шукаць новыя шляхі ў тагачасным мастацтве, — яднаючы музыку, драму, выяўленчае мастацтва, што ў выніку спарадзіла жанр оперы.

Мінская «Камерата» таксама ідзе шляхам сінтэзу мастацтваў і дасягае, на мой погляд, цікавых вынікаў. Неспакойная творчая думка, багатая фантазія А. Шыкунова прыводзяць кожны раз да нечаканых, непрадказальных вопытаў. То «Камерата» выступае поруч са шведскім паэтам, з паказам карцін і з пластычнай групай, то з рок-гуртом «Зарціпо» і тэатрам пантамімы «Рух», то з ансамблем салістаў «Класік-Авангард».

**— Хацелася б прыйсці да такога сінтэзу, — працягвае кіраўнік ансамбля, — калі касцюм, дэкарацыі, музыка, пластыка, мастацкія палотны найбольш моцна ўздзейнічалі б на слухача-гледача. Каб гэта была акцыя, у якой усе віды мастацтва імкнуцца расхінуць свае межы. Каб гэта быў не канцэрт, а цэласнае дзейства.**

**Мы імкнёмся да стварэння свайго шоу. Я не баюся слова «шоу», бо, на маю думку, кожнае прадстаўленне на сцэне — гэта шоу, разлічанае на тое, каб зацікавіць як мага больш людзей, даць ім максімум асалоды ад музычнага відовішча (ва ўсякім разе так павінна быць). І ў нас ёсць такія творчыя магчымасці — зрабіць у сваім жанры тое, што на Захадзе робіцца ўжо, толькі пакуль у эстрадным жанры. Такія групы, як, напрыклад, «Тэйк Сікс», праводзяць акапэльныя канцэрты вакальнай групы, у 2-х аддзяленнях, у вялізных залах на 10—15 тысяч чалавек, — і ўсё чуваць, і зала поўная. Мы можам зрабіць такое ж шоу, але шоу сур'ёзнае: сур'ёзны канцэрт сур'ёзнай музыкі. Тое, што мы робім цяпер, гэта тры працэнты ад таго, што магло быць, калі б мне далі рэалізаваць задумы хаця б у плане гукавай апаратуры, ужо не гаворачы пра сцэнічнае вырашэнне — дэкарацыі, касцюмы. Я хацеў бы мець надзіманыя модульныя дэкарацыі, якія б пры іх таннасці давалі максімум варыянтаў афармлення. Я хацеў бы мець кампактную піратэхніку — для выканання старадаўніх, стылізаваных намі твораў, каб гэта было цікавае дзейства, каб яно эмацыянальна ўзрушала і зараджала слухача. Вядома, усё гэта вымагае вялікіх грошай. І хаця ўсім вядома, што іх цяпер няма, мне здаецца, калі па-гаспадарску падысці да таго, што мы маем, можна было б тое-сёе выкраіць. Але для гэтага патрэбны найперш зацікаўленыя людзі.**

Я згодна з гэтым. Між іншым, не разумею, дзеля чаго існуе вялікі апарат у нашай філармоніі? Інтэнсіўнай рэкламнай дзейнасці не адчуваецца — дастаткова зірнуць на стандартныя філарманічныя афішы ў горадзе. Здаецца, ніхто не рупіцца наконт запісаў выканаўцаў на радыё, тэлебачанні — пра пласцінкі й гаворкі няма. Адміністрацыйны апарат існуе быццам бы сам для сябе... Найбольш цікавыя падзеі, скажам, — «Адраджэнне беларускай капэлы» і І Міжнародны фестываль сучаснай камернай музыкі, вядома, — заслуга не філармоніі, хоць яна і дала залы для канцэртаў: усё арганізавалі, у асноўным, выканаўцы-энтузіясты. Я ведаю, колькі намаганняў і здароўя каштавала правядзенне фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы» спеваку В. Скорабагатаву. А Міжнародны фестываль сучаснай камернай музыкі адбыўся, гэта таксама вядома, дзякуючы найперш ансамблю салістаў «Класік-Авангард». Такі калектыў зрабіў бы гонар любому гораду. Здавалася б, філармонія павінна была ўхапіцца за яго абедзвюма рукамі, але не — чамусьці адштурхнула. Шчасце, што яшчэ ёсць у ДАВТе людзі, для якіх музыка даражэй за свае амбіцыі, і «Класік-Авангард» прытулілі ў тэатры. Ну, а філарманічныя дзеячы, напэўна, гатовыя залічыць правядзенне тых фестываляў у актыў сваёй установы. Зрэшты, знутры, мабыць, відаць лепш...

**— Агульная тэндэнцыя нашых канцэртных арганізацый — рабіць калектыў задарма: чым танней ён абыдзецца, тым лепш, — разважае А. Шыкуноў. — А тэндэнцыя, што існуе на Захадзе, гаворыць пра іншае. Там 30 працэнтаў прыбытку ад самых прыбытковых прадпрыемстваў ідзе на рэкламу. Тое ж і ў мастацтве. Калі вы хочаце мець калектыў, значыць, вы павінны шмат укладаць у рэкламу. Вы аддайце грошы за тое, каб зняць пра выканаўцу відэакліп на ТБ, каб пракруціць яго потым некалькі разоў — для пашырэння геаграфіі папулярнасці па канале «Астанкіна», вы надрукуйце каляровыя прыгожыя афішы і буклеты — дык праз год-два вашы выдаткі акупяцца цалкам і пойдзе прыбытак! Тыя ж амерыканцы, якія на нашы гастролі патрацілі вельмі шмат, здолелі пры гэтым яшчэ нешта і зарабіць на нас.**

Часта гавораць, што няма грошай на мастацтва, але ж знаходзіцца на нешта іншае нават валюта... Выяўляецца некампетэнтнасць ва ўсім, у тым ліку і ў кіраванні мастацтвам. А што значыць некампетэнтнасць у кіраванні? Гэта значыць, што чалавек не мае высокага адукацыйнага цэнза, высокага культурнага ўзроўню (не, дыплом і нават дзве дысертацыі тут нічога не даюць!), з чаго вынікае адсутнасць бачання перспектывы. Вось і кідаемся — то там зацыруем, то там, а агульны працэс распаўзаецца. На шчасце, творцы-энтузіясты ў нас пакуль яшчэ ёсць і цяга да духоўнасці ў народа таксама не згасла.





«Камерата» на музычным фестывалі ў Полацку. 1990 г.

**— Так, творцы-энтузіясты пакуль ёсць, але іх усё менш, — заўважае А. Шыкуноў. — Я зноў прыгадваю нашу паездку ў ЗША. Ведаеце, наш ансамбль ідзе сваім незвычайным шляхам. Тыя эксперыменты, што мы робім з гукам, як з электронным, так і з жывым, з літарай, складам, з інтанацыяй чалавечага голасу, — я не чуў, каб гэта яшчэ хто-небудзь рабіў. І мяркуючы па тым, як зацікавіліся нашымі пошукамі амерыканцы, яно так і ёсць. Дастаткова ім коратка растлумачыць нашы прынцыпы працы з гукам, як яны з іхняй падрыхтоўкай, тэхнічнай аснашчанасцю, дзелавітасцю адразу абгоняць нас. Крыўдна... Потым даказвай, што твае крокі былі першымі. Калі «адтуль» прыйдзе запісаны іхнімі музыкантамі дыск (мы, дарэчы, дагэтуль свайго дыска не маем) — і ў нас на радзіме будуць гаварыць: «О, ты падобны на тую пласцінку, на таго выканаўцу!» А пра тое, што мы на 5 гадоў раней выступалі з такой музыкай, «прабівалі» яе, — усе забудуць. Амерыканцы ўхапіліся за нашы ідэі: прапанавалі мне завочную аспірантуру, заказалі напісаць музыку для царквы і г. д...**

Чаму ж у нас і кампазітары, і рэжысёры мала зважаюць на такі арыгінальны калектыў? Яго непаўторнасць не толькі ў надзвычай своеасаблівым гучанні, у прынцыпах сінтэзавання чалавечага голасу і электронных эфектаў, у магчымасці ствараць голасам квяцістыя гукавыя палотны і ў авангардным, і ў імпрэсіяністычным стылі, але і ў здольнасці вольна імправізаваць у працэсе выканання — рэдкая здольнасць у так званых сур'ёзных музыкантаў. «Камерата» аднолькава свабодна можа спяваць джаз, духоўную музыку, авангардныя кампазіцыі з самымі смелымі эфектамі. Цікава, а ці патрэбныя сатворцы самой «Камераце», — ці яна можа абыходзіцца ўласнымі сіламі? Ёсць жа творцы самадастатковыя...

**— Не, я не такі, — мяркуе А. Шыкуноў. — Калі б мы знайшлі людзей творчых, зацікаўленых, сугучных нам, мы былі б толькі рады. Бо я, напрыклад, сябе не лічу кампазітарам-прафесіяналам і пісаць музыку гэтак інтэнсіўна і часта проста вымушаны, бо кампазітары не пішуць у такой стылістыцы, а стаяць на месцы мы не можам. Хочацца, каб кампазітар, які прыйшоў бы да нас, быў здатны да ўспрымання новага, каб ён мог адысці ад канонаў харавога пісьма, якія вельмі моцна ўвайшлі ў плоць і кроў кампазітараў, і яны ніяк не могуць ад іх адмовіцца. Аднак у інструментальнай музыцы адмовіліся ж, і даўно! Дастаткова прыгадаць вопыты з сінтэзаваннем гуку ў Шнітке, Губайдулінай, Булеза, Штакгаўзена і іншых — чаму ж у падыходзе да магчымасцей чалавечага голасу такі кансерватызм?! Чаму кампазітары не карыстаюцца дасягненнямі фолк-вакалу, джаз-вакалу? Голас чамусьці дагэтуль застаецца на ўзроўні дасягненняў 19 стагоддзя. Гэта класічны вакал, максімальна аднастайна пастаўленыя галасы. Вельмі добра, калі артысты ў хоры могуць спяваць роўным гукам, але ж гэта толькі адзін з музычна-моўных сродкаў. Гэта ўсё роўна, што ў беларускай мове карыстацца толькі адным сказам, а ўсе астатнія адрынуць. Гукавы свет чалавечага голасу значна багацейшы, ён можа вельмі моцна ўздзейнічаць на эмоцыі, таму хацелася б, каб кампазітары звярнулі ўвагу на такі моцны выразны сродак.**

**Увогуле я лічу, што музыка — гэта не канцэпцыя, а ў першую чаргу — гук, які менш за ўсё ўспрымаецца розумам, а больш за ўсё адчуваннем. І таму ў нашых кампазіцыях пераважае не думка, а фарба, гукавая фарба. Тыя сугуччы, што ў нас нараджаюцца, разлічаныя на падсвядомае ўспрыманне. Мне здаецца, гэта блізкае прыродзе чалавека. Вы ж не аналізуеце, якім паветрам дыхаеце — колькі ў ім кіслароду, вадароду і г. д., — вы проста адчуваеце, што вам лёгка ўздыхнулася! Гэтаксама, калі вы дзівіцеся заходу сонца, вы не аналізуеце, якімі колерамі афарбавана неба — вам проста хораша ад гэтай прыгажосці. Магчыма, гэтак і трэба жыць, і шчаслівыя тыя людзі, якія могуць успрымаць тыя імгненні, што вакол іх адбываюцца, менавіта мімалётным адчуваннем, бо гэта самы багаты свет чалавека. Розум, мне здаецца, значна бяднейшы за адчуванне...**

Склад удзельнікаў «Камераты» з часам памяняўся, але нязменнай застаецца творчая апантанасць кіраўніка ансамбля. Ён часта нервуецца, бо таго, што закладзена ім у партытуру твора, што існуе ў ягоным уяўленні, ён не можа дасягнуць, бо, па-першае, не ўсе такія апантаныя, як ён, а па-другое, няма тэхнічных сродкаў сучаснага ўзроўню для дасягнення патрэбнага творчага выніку. Але ж як не радавацца бурнай творчай фантазіі кіраўніка «Камераты» і майстэрству ягоных партнёраў! То гэта прыгожыя гарманічныя джазавыя традыцыйныя кампазіцыі, то складаныя авангардныя, са смелым гукавым эксперыментаваннем, то вытанчаныя імпрэсіяністычныя пейзажныя замалёўкі...

Нядаўна А. Шыкуноў зноў здзівіў: яго апошнія вопыты звязаны з новым асэнсаваннем праваслаўнай музыкі. Дзве кампазіцыі зрабіў ён на аснове твора невядомага рускага сінадальнага аўтара 18 ст. Мне давялося чуць іх падчас запісу на радыё — і зноў здзіўленне. Чытачы, напэўна, ведаюць, што часта запіс эстраднай песні ці рок-кампазіцыі робіцца шляхам накладвання: спярша запісваецца інструментальная частка, а потым накладаецца голас. «Камерата» запісвала адну з тых духоўных кампазіцый таксама шляхам накладання — спярша частка ансамбля выконвала рухавую, тэхнічна складаную партытуру твора кананічнай духоўнай музыкі (такія мы чулі не раз у выкананні розных харавых калектываў). Але потым на гэтую класічную харавую аснову другая частка ансамбля пачала накладаць тое, што прыдумаў А. Шыкуноў, — і партытура з харавой ператваралася ў аркестравую: галасы гучалі то як «бахаўскія трубы», то як фаготы, то як трамбоны. З'явілася столькі фарбаў, нават не верылася, што спевакоў толькі сямёра! Дзіўны погляд на традыцыйны харавы твор...

«Камерата» з поспехам выступае на розных джазавых фестывалях, асабліва любяць ансамбль у Прыбалтыцы, ён бываў у Польшчы і ЗША, ездзіў з канцэртамі ў Швейцарыю. Толькі чамусьці ў праграмах беларускіх фестываляў назву ансамбля цяпер не сустрэць, а шкада. Мне здаецца, гэта арыгінальная фарба ўзбагаціла б палітру беларускага музычнага мастацтва.

**Ірына МІЛЬТО.**

Фота А. МАРЦІНКЕВІЧА.

# БАЛЬ СА ЗВЯЛЫМІ ГВАЗДЗІКАМІ

## Нататкі з чарговага міжнароднага лялечнага фестывалю

Фестываль гэты — з шэрагу аднастайна падобных да сябе эсэндэшных фестываляў, што надта пачасціліся апошнім часам, — меў назву «Інтэрлялька-92» і адбыўся ў Ужгарадзе. Магілёўскі тэатр лялек выехаў туды з «Рыгоркам—яснай зоркай», — з магілёўскім, бо існуе яшчэ і берасцейскі варыянт,— у сваім першастворыным, без уводаў ды замен, выглядзе.

Адкрыццё фестывалю ў нейкай ступені вызначае звычайна ягонае будучае аблічча: на колішнім Беларускім у Мінску кіраўніцтву дэманстратыўна падносілі паўлітра; у Архангельску, на вядомым «Слімаку» (назва фестывалю), усю залу за здароў жывеш паілі шампанскім (ці ж варта ўдакладняць пра цёплую фестывальную атмасферу?). Адкрыццё «Інтэрлялькі-92» адбылося на Тэатральнай плошчы (хоць у людзей такая ёсць!) у духу старых добрых традыцый: некалькі зашмальцавана-пашкуматаных велізарных лялек, вялікі набор масак-галоў для карнавальных шпацыраў а ля свята горада, спевы ды тэксты па фанаграме. (Ціхае здзіўленне выклікала мажная жаночая фігура пад маскай Бураціна, хоць прафесійнікі ператлумачылі яе выгляд сучаснай трактоўкай). Непазбежная група людзей у гальштуках, якой наканавана вітаць ды прадстаўляць, была наўздзіў лаканічнаю. Некаторае ажыўленне і спадзяванне на ўдалы працяг надала звязка паветраных балонікаў, — яны паднялі ў цёплае восеньскае неба эмблему фестывалю. На гэтым ягоны першы дзень... скончыўся!

Характарыстыка «міжнародны» ў наш час значна спрацілася. Удзельнікі з бліжэйшага замежжа (у абліччы Магілёва ды Іжэўска), вялікі букет украінскіх тэатраў, тэатры са Славакіі, Польшчы, Венгрыі, Германіі, Швейцарыі, дзіцячы, але не лялечны калектыў з Югаславіі і нечакана — адна зорка першай велічыні, — непараўнальны ні з кім, выбітны ды адметны Крыстоф Бахданьскі з Аўстрыі са сваім вядомым менчукам «Рубяцалем» паводле нямецкага эпасу.

Арганізатары фестывалю не надта цешылі ўдзельнікаў карысным баўленнем часу. Надвор'е паступова псавалася і адпаведна спадзявання на спектакль-падзею, на якійсь маленькі катарсіс, заставалася ўсё меней...

Кіеўскі гарадскі тэатр прадставіў традыцыйны ўкраінскі вертэп (рэжысёр — С. Яфрэмаў, мастак — І. Уварава, акцёр — У. Завальнюк). Нашага «Рыгорку...» чамусьці паставілі адразу за «Вертэпам», што выклікала натуральныя параўнанні ды абмеркаванні.

С. Яфрэмаў будуе свой спектакль паводле канону, паводле традыцыі, падрабязна аднаўляючы тэкст ды спевы-канты ў прыстойным выкананні У. Завальнюка, якога падтрымлівала фанаграмнае чатырохгалоссе. Спектакль быў успрыняты з нейкім ненатуральным захапленнем, хоць мне здалося, што ён нейкі халодны ды рацыянальны, што лялькі ягоныя прыдуманы недастаткова хораша, а пластыка дык і зусім нераспрацавана.

Падчас абмеркавання Густаў Гізін, член журы са Швейцарыі, выказаўся пра тры варыянты стаўлення да традыцыйнага тэатра: як да музейнай рэканструкцыі, як да намагання зберагчы асноўныя традыцыі ды злучыць іх з днём сённяшнім (да гэтага кірунку спадар Гізін далучыў кіеўскі «Вертэп») і як да спавядання традыцыі на часавай адлегласці, што прадугледжвае далікатную іронію над мінулым. «Рыгорка...» падпадаў пад трэці кірунак.

Затое ў мяне спектакль кіяўлян, названы адным з лепшых на фестывалі, спарадзіў наступныя меркаванні. Ён пэўна аднаўляў традыцыі, але яму не ставала жыцця. У мяне склалася ўражанне, што менавіта дотык прафесійных рук і забіў праўдзівую форму ды змест вертэпа. Стылізацыя, як бы ні ставіліся да яе, непазбежная! Непазбежная ды неабходная. Традыцыі згубіліся назаўсёды, і нам цяпер вядомы толькі той пункт, на якім натуральнае жыццё ды развіццё традыцыйнага тэатра лялек перапынілася. Гэта ж быў жывы арганізм са сваёй структурай развіцця: мы ведаем, да прыкладу, як мяняліся суадносіны ды змест «святой» і «мірской» частак драматургіі. Як бы гэта магло выглядаць цяпер?

Памятаю, на адным з фестываляў шэраг крытыкаў разбіраў стаўленне да традыцый у «Рыгорку...». Я набраўся тады ці смеласці, ці нахабства, ды папытаў шаноўны сход: «А калі гэтыя традыцыі я намагаюся стварыць цяпер, нанова?» Спрэчка суцішылася... Што ж да традыцый ды іх абароны, дык ці не прасцей за ўсё аддаць традыцыйны тэатр... народу? «Богу богава, а кесару...» Альбо народ усё-такі не кесар?

**Самым цудоўным на фестывалі быў наіўна-вытанчаны спектакль «Разззлаваны спадар у лялечным тэатры» тэатра «Бабіта» з Венгрыі. Немудроная гісторыя пра дзяўчынку, якая патрапіла за кулісы тэатра лялек, каб пераканацца, што лялькі без артыстаў мёртвыя... Дзяўчынку суцяшае пажарны, які дзяжурыць у тэатры, і яны разам прыдумваюць гісторыю пра хлопчыка, дзяўчынку, сабачку ды нехарошага спадара ў капелюшы. Падчас прыдумвання і здарылася падзея, якой так чакалі мы ўвесь фестываль, для якой, аказваецца, не патрабавалася ні доўгіх пошукаў формы, ні выкшталцонага рэжысёрскага прачытання, ні акцёрскага выдурвання. Паветраны балонік з коскамі, начэплены на пальчатку са спаднічкай (дзяўчынка) паліваў (альбо палівала) градку з кветкамі з дзіцячай лейкі пад гукі смешнага факстроту, а яму (альбо ёй) дапамагалі такія самыя паветрана-надзіманыя хлопчык ды сабачка. А потым прыйшло Каханне... і хлопчык затаньчыў з дзяўчынкаю, а нехарошы насаты спадар у капелюшы дэманстратыўна выцягваў плоскую кардонную хмару, з якой ішоў матузковы дождж, ды псаваў надвор'е... Проста і геніяльна: дастаткова ўмоўная лялька без твару, нават без тэксту проста ажывала і рухалася пад музыку —жыла! А як цікава было за ёй назіраць! Уся квінтэсенцыя тэатра лялек, усе асноўныя хады, сітуацыі ды мадэлі наіўна-іранічна прысутнічалі ў гэтым спектаклі. Мо дзеля яго, сціплага, немудрагелістага, празрыста-паэтычнага, і варта было ладзіць гэты лялечны фэст?**

Лідэрамі адразу ж прызналі Кіеў ды Магілёў (пасля прагляду «Рыгоркі...» тыя, хто яшчэ не выступаў, казалі: «А нам што цяпер рабіць?»). Грамада чакала выступлення Харкаўскага тэатра лялек, на чале якога ізноў стаў знаны Я. Гімельфарб, але ягоны конкурсны «Івасік-Тэлэсік» падаўся дзіўным, — ажно да стану дзіўнага шоку, і аднадушна быў ганараваны «правалам». Супрацьвагою яму быў пазаконкурсны спектакль таго самага тэатра «Казкі Андэрсена», пастаўлены ды сыграны з выдумкай, з імпэтам... Хоць, па-мойму, якраз Андэрсена яму моцна бракавала.

Увогуле тэатры гасцёўні былі дастаткова звычайнымі, шараговымі, а спектаклі—аднастайнымі, — як «нашы», так і «не нашы». Арганізатары раздалі пэўную колькасць някрыўдных «завушніц», так бы мовіць, усім лялечным сёстрам... Магілёў і Кіеў да канца вытрымалі цяжар лідэрства. Ларыса Мікуліч у чарговы раз прадэманстравала свайго адметнага Анёла, і ў чарговы раз атрымала дыплом фестывалю за лепшую жаночую ролю, як акцёр Уладзімір Завальнюк — дыплом за лепшую мужчынскую. Арганізатары засталіся задаволенымі, а вось удзельнікі...

Пасля спектакляў нам, удзельнікам, падносілі кошыкі з кветкамі. Шкада, што фірма «Раксалана» не была спонсарам «Інтэрлялькі» — частка гваздзікоў безнадзейна звяла... Як раз і назаўсёды звяла спадзяванне на прэстыж ды прадстаўніцтва «міжнародных» фестываляў, на якія, як правіла, вязуць тое, што танней прывезці, і едуць тыя, хто хоча альбо можа. А мо меў рацыю булгакаўскі Кароўеў, які проста называў месца, куды трэба выкідаць падобныя балі? За «Рыгорку...» ж проста ніякавата: два гады мінула, а ён — усё яшчэ фестывальная падзея. Праўда, у тэатральным свеце лічыцца, што калі на фестывалі надараюцца тры добрыя спектаклі, гэты фестываль — удалы... Ці не?

**Алег ЖУГЖДА,**
**галоўны рэжысёр**
**Магілёўскага тэатра лялек.**

Ужгарад—Магілёў.

# ПАТРАПІЦЬ ЗРАБІЦЬ ЦУД...

## Прэм'ера ў Маладзечанскім лялечным тэатры «Батлейка»

«Казка для дзяцей — малако з мёдам!» Ну як абмінуць выснову з даўным даўняй лімаўскай, узору сямідзесятых гадоў, зацемкі пра сцэнічнае ўвасабленне такога кактэйля? Мёд, відаць, цёк з рэцэнзентавых вуснаў... па вусах. Сённяшнім дзеткам ад таго тэатральнага мёду горкава. Даўным даўняе мядовае стаўленне да казкі ў тэатры ператварылася ў агульнапаблажлівае: маўляў, дзеткі з'ядуць. Хоць і з малачком, і хоць малачко з нуклідамі. І — ядуць дзеткі ледзь не паўсюдна...

Прыстойны казачны прадукт прапанавалі-такі за нядаўнім часам лялечнікі з Маладзечна, упершыню прадставіўшы спектакль, які патрапляе пад крытэрыі тэатра прафесійнага. На малако яны не дзьмулі, вады не лілі. Сыпалі ды сыпалі снегам, — як мае быць у каляднай казцы... За даўным даўнім часам добра-такі забытай разам з самім святам.

Вядома, драматург Сяргей Кавалёў не назаляе згадкамі пра каляды ў перамовах сваіх персанажаў, ды памяркуйце самі: калі яшчэ можа патрапіць у зімовы лес маленькая дзяўчынка, згубіцца там, заблукаць ды чарадзейным чынам выратавацца? Але сапраўднага драматызму хрэстаматыйнай сітуацыі надае пракудла Карузлік, хохлікаў сваяк, весялун ды жартаўнік, сімпатычна-памаўзлівы ды каварны. Смеючыся з Дзяўчынкі, ён адгукаецца на яе адчайны покліч голасам матулі і хутка падштурхвае ў сумёт: засынай назаўсёды, дурнічка! Дзеля чаго? Фармальная нагода — маленькія чырвоныя рукавічкі, што так упадабаў на дзіцячых ручках. Па законах сапраўднай драмы гэтыя дэтэктыўныя рукавічкі мусяць-такі канчаткова выкрыць карузлікавы шкоды.

Драматург Сяргей Кавалёў ды рэжысёр Галіна Карбаўнічая далікатна расставілі свае ацэнкі ўчынкаў персанажаў, перадусім зважаючы на асаблівасці пэўнага дзіцячага ўзросту. П'еса ад пачатку прызначалася да паказу на шырме, і рэжысёр рызыкавала непаразумецца з крытыкаю, выводзячы акцёраў з-за яе без аніякіх інтэрмедыйных дачыненняў, не пабудаваўшы аніякага «другога плана», што мусяць увасабляць лялечнікі ўжо між сабою. Яны, лялечнікі, і дзейнічаюць нібыта за шырмаю, бо даць ім дадатковы тэкст альбо прыдумаць незалежную лінію паводзін азначала б змяніць узроставы адрас спектакля і пераўскладніць яго. Адзінае пэўнасці хацелася б прычакаць — пэўнасці стаўлення акцёраў да сваіх планшэтных партнёраў; але гэта ўжо выдаткі акцёрскай падрыхтоўкі. Што да спектакля, дык фабула яго выпрастана, шэраг падзей не перагрувашчаны нечаканасцямі ды падрабязнасцямі. Вылучае яго неадназначнае стаўленне да зла і дабра, свайго роду расповяд пра крыўду-помсту, якую ні на сцэне, ні ў зале ніхто не зблытае з адплатай. Зрэшты, агульнавядома, як пераканаўча адмоўныя персанажы ўмеюць убіцца ў ласку любой дзіцячай аўдыторыі праз сваю каларытнасць, характарнасць, здольнасць да ўчынку ў прынцыпе і часцяком — праз дзіўна (ведаючы сучасны тэатральны працэс, якраз нядзіўна) — прыцягальную нестаноўчасць. Яны выбіваюцца з шэрагу дабрадзеяў ужо адным сваім прызначэннем закручваць тэатральныя звады ды вылучаць непераможную станоўчасць сваіх супрацьлегласцяў.

Карузлік збірае першыя сімпатыі гледачоў сваім нецiхмяным, жвавым стылем існавання ў спектаклі (ягоную ролю выконвае Леанід Сідарэвіч). Нават Дзяўчынка ў сумёце спачатку ўспрымаецца чарговым жартам веселуна: ці ж мала як можна выправіцца паводле трафарэту? Адумацца, засаромецца... Пакуль у чарговай карціне рэжысёр не пераканае ў свядомай жорсткасці маленькага злосніка: стары братка Хохлік уратуе дзяўчынку, а тую малы звадыяш падбухторыць скрасці чароўную хохлікаву скрыпачку. І яна — скрадзе.

Натуральна, справядлівасць у казцы адновіцца. Але цуд казкі менавіта ў тым, што чароўная нестаноўчасць Карузліка нікому ўжо не заступіць натуральнай прыстойнасці Хохліка, крыху падобнага да прапісной ісціны. Мудрасць пастаноўшчыкаў у тым, што Хохлік — харошы без прыўкрасаў, яму не трэба штораз дэманстраваць сваю дабрыню. Паўтаруся, што Карузлік без намаганняў адразу заваладвае сімпатыяй аўдыторыі, — тым глыбейшы будзе ўздых расчаравання. Між тым станоўчасць Хохліка, празрыстаць яго казачна-ўседаравальнай сутнасці дзеці мусяць паспяхова давесці сабе самі, падпарадкуючыся дакладна-далікатнаму разліку стваральнікаў спектакля. Дзяўчынка (у гэтай ролі я бачыла Ірыну Камышаву) перавыхоўваецца проста — па-казачнаму. Мо і па-дзіцячаму?

Чацвёрты персанаж, Слімак (Уладзімір Уладыка, ён самы — выканаўца ролі Хохліка), кватарант вазаніцы з кветкаю, ведае ўсё пра ўсіх і... маўчыць. Уяўляе сабою гэткае перакуленае дагары нагамі ўсведамленне ўласнай рацыі, нешта падобнае да знакамітага класікава непрацiўлення злу. Гэта збліжае яго з Хохлікам, нездарма паводле рэжысёра ролю абодвух выконвае адзін акцёр. Слімак — неабходны фон для паразуменняў, выпрабаванняў ды высновы, якую... увасобіць сабою чароўная скрыпачка, адмаўляючыся цудадзейнічаць у няўмелых (тут таксама — нядобрых) руках Карузліка. (Музычны цуды спектакля прадвызначыў кампазітар Сяргей Бельцюкоў і выканаўца на флейце Даша Бельцюкова).



Ірына **Камышава** і Уладзімір **Уладыка** ў спектаклі «ХОХЛІК».
Фота К. ВАВІЛАВА.

Падобна, п'еса С. Кавалёва пераймае неадназначнасць адной з лепшых п'ес беларускага дзіцячага рэпертуару — п'есы Анатоля Вярцінскага «Дзякуй, вялікі дзякуй!». Матывы няўдзячнасці за дабро, дабрыні, якая ўсё пераствараe, або цуду перавыхавання — відушчасці і да т. п. абедзвюх п'ес дасціпным чынам пераймаюць матывы Адвечнае кнігі (мо па-свойму і рыхтуюць дзяцей да спаткання з ёю). Няможна не адзначыць і тактоўную, асцярожную рэжысёрскую апрацоўку драматургіі. Карбаўнічая не забаўляе дзяцей, не ківае ім пальцам, не ладзіць звыклай акцёрскай мітусні, якая паўсюдна і зазвычай прыкрывае адсутнасць сапраўднага драматычнага дзеяння, не заклікае аўдыторыю слязліва спачуваць і, нарэшце, не карае Карузліка магчыма-немагчымымі кпінамі ды біццём. Рэжысура прадугледзела асаблівую камернасць пастаноўкі, якая дзеецца на трох невялічкіх задрапіраваных сталах. На іх — выявы-пазначкі зімовага лесу ў стылі наіўных канструкцый з паперы, хохлікава хацінка. Аснова для выяў — капялюш. Акцёрам гэтыя капелюшы можна спраўна ўскладаць на галаву, проста «распускаючыся» ў прыродзе ды пачуццях персанажаў казкі, пазначаць час і месца дзеяння, — прынамсі, сонца і месячык, зразумела, сімвалізуюць прамежкі сцэнічнага часу. Капелюшы з вэлюмамі функцыянуюць раз-пораз і як своеасаблівыя шырмы, прыкрываючы твары акцёраў у патрэбных месцах. Казка ў самым небанальным сэнсе прыгожая (мастак Людміла Даўгіна), сапраўды калядная...

Крыўдна будзе, калі ў тыпавую залу Палаца культуры, дзе атайбаваўся маладзечанскі тэатр лялек, глядзець яе ўваб'ецца чатырыста чалавек сярэдняга школьнага ўзросту, хоць спектакль відавочна прызначаны для дзяцей меншых і меншае колькасці. Але гэта ўжо — рэчаіснасць. Яе самая найчароўная скрыпачка самага добрага персанажа не патрапіць перарабіць на цуд.

**Жана ЛАШКЕВІЧ.**

# А СНЫ—АБ БЕЛАРУСІ...

Маладосць, паэтычнае абуджэнне Янкі Золака, якому 1 лістапада споўнілася 80 гадоў, прыпалі на трагічны час ваеннага ліхалецця. Ды дзеля таго, каб душа прамовіла пачуццем і словам, зусім неабавязковы спакой, матэрыяльны дастатак і ўпэўненасць у будучыні. Часцей, наадварот, пабуджальнікам выступае штосьці са знакам мінус, бо яно развярэджвае душу, прымушае яе абвострана ўспрымаць жыццё, усё тое, што непасрэдна датычыць ці цябе самога, ці лёсу твайго народа.

Боль, скруха, адчай, трагедыйнасць, заклік быць мужным, выстаяць у нялёгкім змаганні, надзея на тое, што Беларусь выжыве ў навалах і здабудзе сваю незалежнасць, — вызначаюць танальнасць, сутнасць і пафас паэзіі Янкі Золака ваеннага часу.

Менавіта ідэя вольнай і незалежнай Беларусі, якая павінна ўзняцца з попелу і духоўнага небыцця, адрадзіць колішнюю славу — і была той жыватворнай глебай, дзякуючы якой і насуперак усяму фармавалася ў вайну новае пакаленне свядомых беларусаў. Пра тое ж, як нялёгка было сцвердзіцца беларускай ідэі ва ўмовах акупацыі, колькі ілюзій і патырчак было на гэтым шляху, якія трагедыі спатыкалі тых, хто ў змаганні дзвюх таталітарных сістэм апынуўся паміж імі са сваёй светлай любоўю да Маці-Беларусі, яшчэ, спадзяемся, будзе напісана не адна кніга. Але і дзякуючы паэтычнаму слову мы і цяпер маем сведчанні непасрэдныя, эмацыянальна -непадробныя, якія ў сабе нясуць не менш праўды, чым лагічныя і грунтоўныя навуковыя даследаванні.

У Слуцку ў вайну жылі і пісалі некалькі здольных паэтаў, якія выдалі зборнік «Песняры Случчыны». Ужо адно тое, што кніга выйшла пад акупацыяй, адлюстроўвала з пазіцыі беларускай ідэі боль і трагедыю народа, перажыванні простых людзей, якім трэба было неяк выжываць у любых умовах, а не толькі змагацца са зброяй у руках, ставіла жыццё яе аўтараў пад вельмі рэальную пагрозу з боку камуністычнай улады, якая пасля выгнання фашыстаў зноў асталявалася на беларускай зямлі. І таму ўсе яны змушаны былі, каб унікнуць пакарання і смерці, падацца на Захад, перажыць пакуты бежанстве. Успрыманне жыцця Янкам Золакам у гэты час стала крайне трагедыйным. Ды ростань з Беларуссю не толькі расцвельвала душэўныя раны, але адначасна і гаіла іх. Потым, калі паэт з няласкавай Нямеччыны пераехаў на сталае жыццё ў Амерыку, пазбыўся там матэрыяльнай нястачы і неўладкаванасці, любоў да Бацькаўшчыны не паменшала. Не толькі ён, усе нашы паэты-выгнанцы, жывучы на эміграцыі, душой засталіся на Беларусі, мроілі пра яе наяве і ў снах. Менавіта гэта і было іх паэтычнай рэальнасцю, а штодзённасць, пры ўсіх яе дабротах і багацці, нечым накшталт ілюзіі, ім нецікавай, нават чужой...

Янка Золак выявіў сябе ў паэзіі і адданым патрыётам сваёй Бацькаўшчыны, і досыць тонкім лірыкам, і гумарыстам-сатырыкам, і здольным перакладчыкам узнёслых і мудрых біблейных псалмаў. Сваё васьмідзесяцігоддзе, пераадолеўшы тысячы міль, ён пажадаў адзначыць на Случчыне, у вёсцы Лучнікі, дзе жывуць яго родныя і блізкія. Менавіта тут ён пачуваецца як дома, і адзінае, з-за чаго трэба вяртацца назад,— гэта пенсія. І, дапраўды, лепшым падарункам і яму, і шмат якім іншым беларусам - эмігрантам было б тое, каб яны здолелі яе атрымліваць тут. Але пра гэта павінна паклапаціцца наша дзяржава.

Дык паздароў, Божа, дні шчырых сыноў Беларусі, дай магчымасць пажыць ім на сваёй роднай зямлі, якой яны былі і засталіся вернымі ад пачатку і да канца!

З васмідзесятымі ўгодкамі вас, шаноўны спадар Антось Даніловіч, паэт Янка Золак!

Яўген ЛЕЦКА.

Янка ЗОЛАК

# Вершы розных гадоў

## Даволі

Даволі плакаць і журыцца,
Сыны Крывіцкае зямлі,
Даволі слёзы крыўды ліць!
Хіба ж над намі не іскрыцца
Свабоды новая зара;
Не йдзе шчаслівая пара!

Браты, зірнеце! Перад вамі —
З руінаў, з вогнішчаў вайны,
Дзе колісь нашыя сыны
Сваімі слалі галавамі
Для зорнай будучыні шлях, —
Раджае волатаў зямля.

Яна радзіла нашу сілу.
Пагоні роднай белы конь,
І меч у конніка — агонь —
Нясуць для ворагаў магілу;
А нам, крывіцкія сыны, —
Дзянькі шчаслівае вясны.

Даволі ж плакаць і журыцца,
Сыны Крывіцкае зямлі,
Даволі слёзы крыўды ліць!
Над намі зорамі іскрыцца
Свабоды ясная зара,
Ідзе чаканая пара.

## Жніўным вечарам

Жніўным вечарам задумным
Ты ішла сярод жанок
З карагодам несла шумным
Залатых жытоў вянок.

У вяночку тым звілося
Жыта буйнае калоссе;
Між калосся — васілёчкі —
Неба роднага скрылёчкі.

Ты ішла, а я — насустрач...
Усміхнуўся грамадзе,
І адчуў, што нехта шустра
На чало мне штосьць кладзе.

Гляную я: аж то — вяночак
Зззяе ласкай сініх вочак;
А ў вяночку — васілёчкі —
Неба роднага скрылёчкі.

Прыпыніўшыся на грудзе,
Я ўдыхаў жытоў цяплынь,
І лілася ў мае грудзі
Песняў радасная плынь.

Гэтых жніўных песняў хвалі
Маё сэрца хвалявалі,
Бо ў тых песнях васілёчкі —
Неба роднага скрылёчкі.

На ўспамін аб днёх шчаслівых,
Нібы ў гожыя вянкі,
Я у песень пералівы
Уплятаю васількі.

...Бо няма таго цвяточка,
Што мілей над васілёчка.
Цешаць сэрца васілёчкі —
Неба роднага скрылёчкі.

## Недасланы ліст

О тата родны!
Мама дарагая!
Нашто, няшчасны, я прыйшоў на свет!
Чаму яшчэ ў юнацкім маі
Апаў-асыпаўся жыццёвы цвет!
За грэх які я змушан сяння
На лёс цяжкі, суворы наракаць,
І ў чужыне, у роспачы выгнання
Вясны чужое росквіт сустракаць!

Не знаю я, што вам пісаць аб долі
Маёй, знаёмых і сяброў...
Прад намі — разляглося поле,
А мы — за дротам лягероў.

Жыццё сабачае... Нібы ў палоне...
Яда — «гемюзэ» (бручка) на штодзень,
Дый той так мала, што ўжо сяння
Не чалавек я — толькі цень.

Нуда мне сушыць розум; сэрца
Смыліць тугой аб доме і аб вас.
Няўжо мне з вамі болей не сустрэцца!
Няўжо прамень надзеі згас!

О цяжкі лёс! Такія мукі
Як перажыць, як перажыць!!
Калі ж суцікне боль разлукі,
Што рэжа сэрца, як нажы!

О тата родны!
Мама дарагая!
Праз дрот кардонаў, праз лясы,
Што ў нявол дагарае,
Цалуе вас
выгнанец-сын.

## Малітва

О, Божа ўсяўладны, о, Божа магутны,
пазбаў Беларусь ад напасці;
дай волю краіне, і нам шматпакутным
дай сілу, надзею і шчасце!

Цябе, Божа, молім у спеве сугучным:
з'яві сваю добрую волю!
О, Божа ўсяўладны, о, Божа магутны,
пашлі нам шчаслівую долю!

Мы—дзеці Твае, мы з пакораю просім:
пазбаў нас ад цяжкае мукі!
Мы лёс Беларусі і наш лёс прыносім
Табе ў справядлівыя рукі.

О, Божа ўсяўладны, о, Божа магутны,
пазбаў Беларусь ад напасці;
дай волю краіне, і нам шматпакутным
дай сілу, надзею і шчасце.

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# Хоць я і не лінгвіст

Што ад эканамічнай рэформы залежыць будучыня нашага народа, ніхто не стане спрачацца. А вось тое, ці застанецца народ самім сабою, залежыць яшчэ ад адной з рэформ — рэформы правапісу. Пакуль яна не праведзена, паспрабую выказаць свае некаторыя меркаванні на гэтую тэму, хоць я і не лінгвіст.

На маю думку, у беларускай мове няправільна ўжываюцца некаторыя інтэрнацыянальныя словы. Як склалася такое ўжыванне? Першая прычына ў тым, што замежнае слова прыходзіла да нас не адразу, а «транзітам» праз рускую мову. Там яно набывала недалёкае ад арыгінала гучанне і напісанне. Затым уводзілася ў беларускую мову па прынцыпе «як гаворыцца, так і пішацца». Вынік атрымліваецца, як у той гульні ў сапсаваны тэлефон.

Другая прычына ў тым, што ў той час, калі ў шмат якіх мовах свету існуе правіла захоўваць у нейкай меры першаснае аблічча запазычанага інтэрнацыянальнага слова, у нашай мове гэтае слова дужа «беларусізавалася», ужывалася па тых жа правілах, што і словы беларускага ці іншага славянскага паходжання. Напрыклад, ненацiскное «о» абавязкова павінна гучаць, як «а».

Прапаную ў інтэрнацыянальных словах, якія, дарэчы, апошнім часам у вялікай колькасці прыходзяць у нашу мову, перайсці на «оканне», магчыма, частковае (калі ў слове дзве ці больш ненацiскных літар **о**, то захаваць ненацiскною хоць бы адну з іх). Інакш гэты кантынгент слоў наўрад ці будзе ўспрымацца шмат кім з насельнікаў Беларусі.

Згадаем, што рускамоўнае оканне існуе ў асноўным толькі на паперы, дакладней — у пісьмовай форме, у вуснай жа мове ненацiскныя **о**, як правіла, адсутнічаюць. Гэткі дуалізм пісьмовай і вуснай форм карысны, бо дадае мове разнастайнасці. Оканне ў беларускай мове таксама дадасць ёй разнастайнасці, хоць яно будзе іншым.

Акрамя ўсяго іншага, наша мова стане больш каларытнай. Адной мілагучнасці, якую заўважылі ўсе, недастаткова. Дарэчы, пазіцыя афіцыйных установ культуры ў галіне эстраднай песні ўключала ў сябе націск якраз на мілагучнасць. Нават мужчыны павінны былі спяваць абавязкова мілагучна. А хочацца, каб нарэшце загучалі ў нашай эстрадзе па-беларуску такія адметныя жаночыя галасы, як у Патрысіі або Лаймы, ці ўжо хоць, як у Машы. Са мной, канечне, будуць спрачацца, але я ўпэўнены, што імідж мовы ад гэтага толькі ўзрасце.

Была ў савецкі час бадай што адна спроба пісаць **о** без націску ў слове «політэхнічны». Лічу, што гэты «рэкорд» у складаных словах трэба зрабіць нормаю. Адным словам, я хачу прывесці некаторыя прыклады, як трэба, на маю думку, пісаць (і гэтак жа вымаўляць) некаторыя групы слоў: політэхнічны,-фанічны,-графічны; прокамуністычны, нэофашысцкі, постфеадальны, аўтародэо, відэо, стэрэо, Рыо-дэ-Жанэйро, бруто, нето і г. д. Гарманічнасць акання ў традыцыйнай беларускай лексіцы ад гэтага не парушыцца і застанецца надалей.

Пра ў кароткае ў інтэрнацыянальных словах. Правілы паранейшаму не ўлічваюць паходжання слоў. Прыклады можна знайсці нават у дэмакратычнай прэсе. У «ЛіМе», № 29 за г. г., змешчаны вершы трох малдаўскіх паэтаў, сярод іх — Аўрэліу Тусуёк (так напісана ў газеце). Згодна з існуючымі правіламі мовы трэба пісаць імя паэта з двума **у**. Вынікае, што ў напісанні дапушчана памылка. Гэта якраз той выпадак, калі трэба кіравацца правілам «як чуецца, так і пішацца». І тады не будуць, як зараз, сустракацца словы соўс, Ізаўра, Бернард Шоў... Лепей, будзе гаварыць: Шоу, Аурэлінд, ноухау, тайм-аут, браунінг і г. д. І тут магчымы нешматлікія выключэнні тыпу «аўтамабіль».

Адносна літары **р**. У беларускай мове яна заўсёды цвёрдая і гэтую цвёрдасць трэба захаваць. З вялікім здзіўленнем давялося прачытаць у чацвёртым нумары газеты «Свабода» слова «Рюйтэль». Можна ў адным зразумець аўтараў — альтэрнатыўнае напісанне «Руйтэль» таксама не выхад, бо вельмі адрозніваецца ад арыгінальнага. Я б прапанаваў у такіх выпадках шырэй выкарыстоўваць апостраф. І, такім чынам, пісаць, напрыклад, Р'юйтэль, Р'юрык і г. д. У іншых жа мовах апостраф выкарыстоўваюць нават паміж д і а, х і ю (д'Арк, Донах'ю).

Калі мы хочам, каб народ павярнуўся да мовы, трэба ў першую чаргу павярнуць мову да народа. Нямала робіцца ў гэтай справе. Але патрэбны больш энергічныя захады і новыя шляхі. Важна не толькі перакласці на беларускую мову назвы кінатэатраў ці гасцініц, але і назвы фільмаў (дарэчы, у русіфікаваным Харкаве гэта ўжо робіцца па-ўкраінску не першы год), каб чалавек у побыце адчуваў прысутнасць беларушчыны. Усе шматлікія таблічкі з надпісамі «Ваш почтовый индекс...», «Не курить!», «Вкл.-выкл.» і іншыя павінны быць у першую чаргу заменены на беларускамоўныя. Уся прадукцыя, што выпускаецца на Беларусі, ад парфумы да сістэм узбраення, павінна мець беларускамоўныя назовы. Не трэба пры гэтым звяртаць увагу на довады, што, маўляў, хтосьці не зразумее. Нас дзесяцігоддзямі вучылі, што рускі, украінец і беларус разумеюць адзін аднаго без перакладчыка, а зараз раптам узніклі праблемы.

Якраз таму, што наша мова болей зразумелая для рускіх, чым, напрыклад, эстонская, нашы захады па яе адраджэнні павінны быць больш рашучымі, чым у іншых дзяржавах, а не наадварот.

Уладзімір МАРКЕВІЧ.
г. Харкаў.

# ЛЮБІМЫ ГОРАД МОЖА СПАЦЬ СПАКОЙНА?

**Гэтыя рэпартажныя нататкі не ставяць сваёй мэтай намаляваць усеабдымную карціну дзейнасці нашай міліцыі, якой, дарэчы, ці не кожны дзень дастаецца на арэхі. Проста захацелася зірнуць на крымінальную сітуацыю ў сталіцы вачыма звычайнага міліцыянера, пабачыць навочна, якімі турботамі, праблемамі ён жыве.**

**Усё гэта я выклаў па тэлефоне намесніку начальніка Мінскага гарадскога ўпраўлення ўнутраных спраў палкоўніку Івану Міхайлавічу Срыбнаму. Ён тут жа даў мне тэлефон намесніка начальніка аддзела па прафілактыцы УУС горада Паўла Яфімавіча Паўлушкіна, паабяцаўшы асабіста пагаварыць з ім. І сапраўды, калі патэлефанаваў Паўлушкіну, той толькі спытаў, па якім раёне горада я б хацеў паездзіць на патрульнай машыне. Адказаў, што па тым, дзе знаходзіцца Камароўскі рынак. «Згода, — пачуў я на тым канцы провада, — значыць, паедзеце ў Савецкі райаддзел міліцыі, я папярэджу камандзіра роты патрульна-паставой службы маёра Бусло».**

## Позірк з патрульнай машыны

**Маёр Бусло, уважліва пазнаёміўшыся з рэдакцыйным пасведчаннем, з усмешкай спытаў: «Значыць ёсць у прэсы жаданне павандраваць на патрульнай машыне? Справа добрая, лепш адзін раз убачыць...» Цікаўлюся ў яго, які час сутак у іх самы напружаны? «Хапае клопатаў заўсёды — і ўдзень, і ўначы, — адказвае ён. Крыху падумаўшы, пытаецца: — Сёння што — пятніца? Тады паедзьце ў змену, якая пачынаецца ў чатыры гадзіны і заканчваецца апоўначы». Мікалай Кірылавіч неўзабаве знаёміць мяне з сярэдняга росту рыжавусым міліцыянерам: Анатоль Кошаль, старшы сяржант, камандзір аддзялення.**

**Выйшлі з райаддзела. Энергічнай, спружыністай паходкай «мой» камандзір накіроўваецца да адной з машын. Я — за ім. Цікаўлюся, які ўчастак машына будзе патруляваць? «Восем гадзін будзем круціцца вакол Камароўкі», — усміхаецца Кошаль.**

Ажывае ў машыне рацыя. «Увага, увага, усім патрульным машынам Савецкага раёна. Толькі што на вуліцы Глебкі адбыўся разбойны напад на газетны кіёск. Узята дзесяць тысяч рублёў. Злачынцы былі на блакітным «масквічы». Нумар машыны наступны... Абʼяўляецца аперацыя «Перахоп»... Праз хвіліну — новае паведамленне: «Пры затрыманні гэтых рабаўнікоў трэба захоўваць асцярожнасць — па некаторых звестках злачынцы глуханямыя і маюць зброю».

Камандзір і вадзіцель, старшына міліцыі Алег Урбановіч, здаецца, успрымаюць пачутае, без усякіх знешніх эмоцый, ва ўсякім разе, не праяўляюць нейкай трывогі. Толькі, здаецца, больш пільна пачынаюць углядацца ў праязджаючы транспарт.

Цікаўлюся ў Кошаля, як ён ацэньвае шансы затрымкі злачынцаў. «Нумары іх машыны, як вы чулі, вядомыя, і знайсці яе будзе няцяжка. А наогул... Звычайна на такую «справу» ідуць на крадзенай машыне. А калі на сваёй, дык змяніўшы нумар...» Ён як у ваду глядзеў. Недзе гадзіны праз дзве па рацыі было перададзена, што пад нумарам блакітнага «масквіча» зарэгістравана іншая машына. Прагучаў новы загад: «Аперацыя «Перахоп» адмяняецца, працягваецца пошук злачынцаў».

«Вам даводзілася сёлета прымяняць зброю?» — пытаюся ў Анатоля. «Дзякуй богу — не», — адказвае ён. «Не надаралася такіх сітуацый?» Камандзір паціскае плячыма: «Усякае было, злачынцаў, на жаль, не меншае, многія з іх маюць нажы, кастэты, нунчакі, іншую халодную зброю. Тут галоўнае не губляць вытрымкі, хоць, прызнацца, бывае цяжка пераадолець спакусу выхапіць з кабуры пісталет. Але.. Стрэліш у нягодніка, нават па нагах — зацягаюць па начальстве, а то і пракуратура ўмяшаецца. Пішы тлумачальныя — чаму прымяніў зброю, чаму не абясшкодзіў іншымі сродкамі — той жа гумавай дубінкай, газам «Чаромха», і ўсе будуць папракаць: маўляў, вучым цябе прыёмам «самба», іншым відам самаабароны, барацьбы на паражэнне, а ты ідзеш лёгкім шляхам,—прымяняеш зброю». Я кажу, што, мяркуючы па зводках МУС, зброю міліцыя ўсё-такі сяды-тады прымяняе. «А што будзеш рабіць, калі бандыт адкрывае па табе агонь? — гаворыць Кошаль. — Або рвецца ўцячы з месца злачынства? Але ўсё роўна потым праводзіцца праверка дзеянняў міліцыі, ці былі яны правамерныя».

Успамінаю рэпартажы нашых журналістаў - міжнароднікаў, прысвечаныя амерыканскай паліцыі, той жа патрульнай службе. Усе яны падкрэсліваюць адну адметную асаблівасць — паліцэйскі там мае права прымяніць зброю пры малейшай пагрозе агрэсіўных намераў з боку затрыманага. Дастаткова апошняму ў гэты момант палезці рукой у кішэню. Усё гэта выхоўвае страх перад паліцыяй, што не так ужо і блага. Але і павагу таксама. Нікому там не прыйдзе ў галаву фамільярнічаць з паліцэйскім у час выканання ім сваіх службовых абавязкаў.

**Усяго гэтага, на жаль, бракуе нашай міліцыі. Нічога благога не магу сказаць пра маіх спадарожнікаў — старшага сяржанта Анатоля Кошаля і вадзіцеля Алега Урбановіча. Яны нават спадабаліся мне нейкай сваёй унутранай далікатнасцю, стрыманасцю і незласлівасцю. Якасці вельмі сімпатычныя ў нармальным жыцці. Але ці працавалі яны на стварэнне іміджу аўтарытэтнага стражу парадку, ці спрыялі выхаванню ў спецыфічнага кантынгента, з якім даводзіцца мець справу міліцыі, так бы мовіць, сіндрома законапаслушэнства? Вядома ж, я не хачу сказаць, што міліцыя павінна абыходзіцца з людзьмі па-хамску, на кожным кроку дэманстраваць жорсткасць. Але, але... Пэўную дыстанцыю паміж сабой і іншымі людзьмі яна захоўваць павінна. Вядома, у службовы час. Было, прызнацца, прыкра назіраць, што затрыманыя ў той вечар грамадзяне звярталіся да маіх спадарожнікаў на «ты», ледзь не паляпвалі іх па плячы. І гэта, я заўважыў, не выклікала ў міліцыянераў нейкай адмоўнай рэакцыі. Не вельмі далікатна падштурхнуць затрыманых у «арыштанцкі» адсек, размешчаны ззаду патрульнага «уазіка», ды пасадзіць туды замест двух, па колькасці месц, пяцёх, каб яны сядзелі там адзін на адным, — гэта ў парадку рэчаў, а зрэагаваць пэўным чынам на панібрацкае «ты» — гэта стражам парадку, здаецца, у галаву не прыходзіла.**

**Некаму можа падацца, што я звяртаю ўвагу на дробязі. Але ж ці не з іх пачынаецца, мякка кажучы, невысокі аўтарытэт нашай міліцыі?**

**Не ведаю, як каму, а мне даўно падаецца фальшывым вядомы радок Маякоўскага: «Моя милиция меня бережет». Відаць, мелася на ўвазе аднолькавая класавая прыналежнасць паэта і міліцыі? Не хачу, каб яна была «маёй», хай будзе дзяржаўнай. І каб не была «плоть от плоти народа», як убівалі ў свядомасць савецкіх людзей семдзесят год. Бо калі «плоть от плоти», калі «мы з адной вёскі», дык можна да той міліцыі паставіцца і без павагі, без патрэбнага піітэту. Можна і на «ты»...**

Наша патрульная машына тым часам пачала абʼязджаць межы ўчастка, які на сённяшні вечар быў замацаваны за ёй: вуліца Веры Харужай да перасячэння з вуліцай Максіма Багдановіча (былой М. Горкага) — гэта з аднаго боку, з другога — вуліца Кульман. Пасярэдзіне ўчастка — Камароўскі рынак з шматлікімі завулкамі і тупікамі. «Галоўны падаруначак», — іранізуе камандзір. «Адна патрульная машына на столькі вуліц, ды яшчэ ў дадатак — Камароўку, ці не замала?» — пытаюся я. «А што рабіць, у нас, бывае, на патруляванне выязджае палова машын — астатнія няспраўныя. Тэхніка ж даламаная», — з прыкрасцю тлумачыць Кошаль. З далейшай размовы высвятляецца, што гэтыя «уазікі» мала прыдатныя для нясення патрульнай службы — вельмі цяжкія («паглядзіце, кузаў з суцэльнага жалеза») і пры гэтым са слабым рухавіком. «Максімальная хуткасць — сто кіламетраў, — расказвае Алег, — паспрабуй дагані злачынцу ў «мерседэсе» ці «фордзе». Ды што — імпартныя, мне і звычайнага «жыгуля» не дагнаць», — са скрухай дадае вадзіцель.

Успамінаю, што гады два назад у былым СССР, у тым ліку і на Беларусі, было ўведзена сумеснае патруляванне міліцыі і вайскоўцаў. Кажу пра гэта Кошалю і пытаюся, ці дало тое сумеснае патруляванне нейкую практычную карысць? «На маю думку, вельмі слабую, а мо і наогул ніякай. Як гэта выглядала на справе? Міліцыянеру давалі ў «дапамогу» двух салдат, звычайна нявопытных першагодкаў, і казалі: ідзіце патрулюйце. А салдацікі тыя паняцця не мелі аб міліцэйскай службе, аб яе спецыфіцы, не кажучы ўжо пра існуючыя законы (я ўспомню гэтую размову праз некалькі дзён, калі прачытаю ў газетах пастанову Саўміна рэспублікі аб арганізацыі сумеснага начнога патрулявання сіламі МУС, Міністэрства абароны і КДБ. Сапраўды, правільна кажуць, усё новае — добра забытае старое).

...Паварочваем на вуліцу Веры Харужай, ля Камароўскага рынку. Гудзе, мітусіцца базарны народ. Нібы ў няспынным броўнаўскім руху снуюць туды-сюды людзі з торбамі, кошыкамі, скрынкамі.

Да нашага «уазіка» падыходзяць трое маладых міліцыянераў. Аказваецца, гэта «пешая» частка аддзялення Анатоля Кошаля, якая «дыслацыруецца» на рынку. Хлопцы са «здабычай» — вядуць з сабой маладога чалавека з вялікай сумкай. «Прадаваў гарэлку, шампанскае», — дакладваюць міліцыянеры. «Няпраўда, — пярэчыць затрыманы і божыцца, што знойдзеныя ў сумцы шэсць бутэлек шампанскага і пяць гарэлкі куплены ім на дзень нараджэння жонкі. «Толькі купіў, як тут вашы хлопцы падышлі — хадзем, кажуць, з намі». Няўдалага гандляра з яго «падарункам жонцы» запіхваюць у «арыштанцкі» адсек машыны. Акурат у гэты момант да «уазіка» падбягае маладая жанчына ў джынсах, барабаніць па дзверцах: «Пасадзі, начальнік, мяне разам з ім, гэта мой мужык». Відаць, што жанчына на моцным падпітку. «Пагуляй пакуль, — смяецца Кошаль, — возьмем і цябе».

У апорным пункце ўладальнік спіртнога ўжо не ламаў камедыі пра дзень нараджэння жонкі, а прызнаўся, што хацеў тым шампанскім з гарэлкай спекульнуць. Складаецца акт канфіскацыі спіртных напояў, вінаватаму пагражае штраф і паведамленне на працу. «Жанчына, што рвалася ў машыну з вамі, сапраўды жонка?» — цікавіцца Кошаль. «Якая жонка! — гідліва махае рукой «гандляр». — Як угледзела мяне з «грузам», дык — ні на крок, давай, кажа, памагаць буду».

**Зноў мы яе ўбачым праз некалькі гадзін, калі рынак закрыецца, і на плошчу перад ім з боку вуліцы Веры Харужай выльецца чалавечая хваля, якая раптам нагадае мне ўбачаную аднойчы ў раёне Адэскага марскога порта марскую хвалю, брудную ад плямаў нафты і рознага смецця. Тут, на пятачку, «тусаваліся» сотні людзей, многія з якіх абліччам нагадвалі горкаўскіх басякоў. Былі сярод іх і прадстаўніцы «прыгожага полу», якія адчувалі тут сябе ў роднай стыхіі. Увесь гэты натоўп лузгаў семкі, нешта жаваў, істэрычна рагатаў, разбіваўся на асобныя купкі, каб, відаць, дамовіцца аб нейкіх адным ім вядомых справах. «Будуць таўчыся да позняга вечара, — кажа камандзір, і гідліва перасмыкнуўшы плячыма, дадае: — Нямала сярод іх бомжаў, якія знікнуць з халадамі — пацягнуцца ў спецпрыёмнікі, дзе цёпла і кормяць. А наогул — гэта ўсялякі зброд... Па многу дзён нямытыя, нячосаныя, у смярдзючых лахманах — падысці страшна...» (Адным словам, «дно», пра якое большасць з нас амаль нічога не ведае. Мо і сучаснікі «горкаўскага дна» столькі ж ведалі пра яго насельнікаў? Ды мне ўяўляецца, што гэта было ўсё-такі іншае «дно», «дно», дзе былі саціны і лукі, а не спрэс люмпены-пʼянтосы, як цяпер).**

**Акінуўшы поглядам гэтае «общество», Анатоль раптам весела ўсклікнуў: «А вунь і наша знаёмая!» Сапраўды, у адной з купак я ўбачыў жанчыну, што прасілася пасадзіць да «мужа». Пад рогат некалькіх мужчын яна рабіла даволі слабыя спробы вызваліцца з абдымкаў аднаго з іх. У нейкі момант жанчына павярнула галаву і ўбачыла нас. Сказаўшы нешта хаўруснікам, накіравалася ў наш бок. Выглядала яна досыць прыстойна, нават кідка ў сваіх джынсавых цесных штоніках і амаль новай куртачцы. Ды і з твару была нішто сабе. Мы адчынілі дзверцы, запрасілі: «Сядайце, дзеўчына, пагаворым». Яна какетліва ўсміхнулася: «Пра што гаварыць будзем, пра любоў?» «Пра любоў, пра любоў, — засмяяўся Анатоль, — пра што яшчэ з табой гаварыць». Яна села і машына адразу напоўнілася моцным сівушным пахам. Я ўжо маляваў у думках гэткую журналісцкую ўдачу — запіс маналога мясцовай «травіяты». «Раскажыце, дзяўчына, пра сябе, дзе працуеце, жывяце?» — пачаў я, спрабуючы неяк разгаварыць яе. «Во-первых, я давно уже не девушка, у меня трое детей, трехкомнатная квартира, вся в коврах и хрусталях. Что еще?» — «И муж непьющий», — у тон ёй дадаў я, ужо разумеючы, што нічога з маёй задумы не выйдзе. «Само собой, муж у меня замечательный, главный конструктор на заводе», — сказала жанчына і востра зірнуўшы на мяне, раптам спытала: «А вы с какой газеты?» «А чаму вы вырашылі, што я з газеты?». «А всё-таки, с какой?» — паўтарыла жанчына, штурхнуўшы мяне плячом. Адчыніўшы дзверцы, яна скокнула на зямлю і пашыбавала да сваёй кампаніі, якая, здаецца, яе з цікавасцю чакала.**

**«Ну што, узялі інтэрвʼю? — засмяяўся камандзір. — Ды я з самага пачатку ведаў, што яна пачне вешаць лапшу на вушы, гэта такая публіка...» «Як яна даведалася, што я з газеты?» — не мог стрымаць я прыкрасці. «Вылічыла, — выказаў здагадку Анатоль. — Бачыць, ездзіць з патрулём цывільны чалавек, на пераапранутага міліцыянера не падобны, значыць, хутчэй за ўсё з рэдакцыі». «Як яна праходзіць па вашай міліцэйскай класіфікацыі — як прастытутка?» — пытаюся я. «Алкагалічка, ды такая, што за пачастунак гатова на ўсё».**

Хутка ў нашай машыне зʼявіцца яшчэ адзін падобны «экземпляр» — нейкая Людка, якую Анатоль з Алегам прывялі з падземнага пераходу разам з нейкім Юрам, які, па яе словах, хацеў яе згвалтаваць. Хлопца запіраюць у адсеку, Людка садзіцца побач са мной. Яна на добрым падпітку і з вуснаў яе нясецца такая брудная лаянка на адрас таго Юры, што хоць вушы затыкай. «Даўно з ЛТП прыйшла?» — пытаецца Кошаль. «Пасажырка» крыўдзіцца: «Гэта было даўно і няпраўда, усе ведаюць, што я завязала, у рот не бяру».

Адвозім іх у апорны пункт, а самі вяртаемся на Камароўку. Успамінаю, колькі правапарушальнікаў затрымаў за вечар наш патруль. Так, гандляр гарэлкай і шампанскім, пʼяная кампанія хлопцаў, што пабіліся каля піўнога ларка, пʼяны, падабраны на вуліцы Куйбышава, два нецвярозыя падлеткі, «Людка» з хаўруснікам...

На горад апускаюцца раннія восеньскія прыцемкі. То перастае, то зноў пачынае церушыць халодны дождж. Спыняемся каля «камкоў», што ланцугом аперазалі Камароўскі рынак. Некаторыя ларкі ярка асветлены, яны працуюць усю ноч. Набор тавару ва ўсіх амаль аднолькавы — тытунёвыя імпартныя вырабы, парфума, сякое-такое адзенне. Не бачна, каб нехта што купляў у іх у гэты позні час. «І так усю ноч будуць сядзець?» — пытаюся ў камандзіра. Ён няпэўна паціскае плячыма, заўважыўшы, што каб не было выгадна, не заставаліся б на ўсю ноч.

Да машыны падыходзяць знаёмыя ўжо міліцыянеры, дакладваюць абстаноўку. Нічога незвычайнага. «Пасвім бабулек з гарэлкай, — кажа адзін з дзяжурных. — Толькі падыдзеш, яны — шух на аўтобусны прыпынак і стаяць, быццам, чакаючы транспарту, ведаюць, што тут мы іх не зачэпім, не маем права, ці мала хто стаіць на прыпынку з торбамі, не будзеш жа ўсіх запар абшукваць».

Яшчэ месяц назад продаж гарэлкі і віна з рук ішоў на Камароўцы амаль легальна. Але нядаўна выйшла пастанова Мінгарвыканкома, якая такі продаж на гарадскіх рынках, вакзалах, іншых месцах вялікага скаплення людзей забараніла, кантроль за выкананнем пастановы ўсклалі на міліцыю.

Тым часам, адзін з паставых затрымлівае маладую кабету з вялікай сумкай — круцілася ля бабулек на прыпынку. Затрыманая трымаецца незалежна і амаль весела, з гатоўнасцю раскрывае сумку — пуста. Міліцыянер расчаравана адыходзіць. «Паспела перадаць», — каменціруюць яго таварышы, што наглядаюць за гэтай сцэнкай. «Тут дзейнічае сапраўдная мафія, — гаворыць Кошаль, — прытым добра арганізаваная. Адны, гэта галоўка мафіі, заняты набыццём алкагольных напіткаў рознымі шляхамі на спіртзаводах, гандлёвых базах, у магазінах, прывозяць з блізкага замежжа. Частка мафіі займаецца збытам «прадукцыі» — падборам агентаў, якія разносяць бутэлькі па бабульках-пенсіянерках. Апошнія ж маюць ужо непасрэдныя кантакты з пакупнікамі і працуюць за камісійныя. Разлік тут дакладны. Што зробіць міліцыя той бабулі пры затрыманні? Самае большае адбярэ на карысць дзяржавы некалькі бутэлек — памногу яны з сабой не носяць. І небяспекі няма, што «расколецца», бо тая бабулька фактычна нічога не ведае. А калі і ведае, дык не раскажа, яна «ў курсе», што за гэта ў турму не пасадзяць...»

**Праз некалькі дзён я з палёгкай успрыму пастанову Савета Міністраў рэспублікі аб увядзенні дзяржаўнай манаполіі на гандаль алкагольнымі напіткамі, півам і тытунёвымі вырабамі. А яшчэ праз тыдзень прыйдзе горкае расчараванне — і пасля пастановы гарэлка і цыгарэты ў дзяржаўным гандлі не зʼявіліся, затое ў спекулянтаў цэны на іх рэзка пайшлі ўгару (відаць, улічваючы рызыку) — у раёне вакзалаў бутэлька гарэлкі каштуе ўжо не 170 рублёў, як да пастановы, а 210, пачак «Астры» — не 25, а 28 рублёў...**

Дождж пачынае ліць як з вядра. «Безматорныя» міліцыянеры, прамоклыя да ніткі, уціскаюцца ва «уазік». «Плашчы вашыя, відаць, да такога дажджу не прыстасаваныя», — кажу я. Адзін з міліцыянераў падымае крысо плашча, сумна ўсміхаецца: «Як рэшата». Заходзіць размова пра міліцэйскае жыццё-быццё. Мяркуючы па рэпліках, якімі абменьваліся прысутныя, — невя-

З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУШЧЫНЫ

# ЯК УЧЫНЯЛІ «ЗАКОНЪ КРЕПКОЙ» АДНОСНА РОДНАГА СЛОВА

ЁСЦЬ ШМАТЛІКІЯ сведчанні аб тым, што пісьменнасць на Беларусі ўзнікла пасля канчатковага распаду Кіеўскай Русі ў першай чвэрці XIII стагоддзя. Першая беларуская друкаваная кніга «Псалтыр» выдадзена Францішкам Скарынам у 1517 г. у Празе Чэшскай, у створанай ім друкарні. Геніяльнае пачынанне вялікага беларускага гуманіста і першадрукара хутка прынесла багаты плён. Прыблізна у 1520 г. скарынінская друкарня перавезена ў Вільню з Прагі. Затым былі створаны друкарні ў Нясвіжы (1562), Заблудаве (1567), а таксама ў Вільні (1574 і 1596). У 1610 г. пачалі дзейнічаць выдавецтвы Траецкага брацтва ў мястэчку Іўе. У 1616 г. адкрылася друкарня ў Магілёве, у 1630 у Куцені, што каля Оршы, у 1635 — у Буйнічах ля Магілёва, у 1689 — у Супраслі. Існавалі таксама беларускія друкарні ў Заслаўі, Капылі, Лоску, Навагрудку, Слуцку і іншых гарадах і мястэчках Беларусі.

У стварэнні старога беларускага пісьменства прымалі ўдзел вышэйшыя пласты грамадства: магнаты, шляхта (баярства), мяшчанства, духавенства. Сялянскія масы былі ў тыя часы непісьменныя і адлучаныя ад культуры. «Нізы» народныя жылі сваім асаблівым жыццём, тварылі ў жывым слове вусную паэзію. Калі к канцу XVII стагоддзя «вярхі» страцілі сваю галоўную вонкавую нацыянальную адзнаку — мову беларускую, яны ўсё ж не маглі змяніць сваёй псіхалогіі, якая і сягоння рэзка адрозніваецца ў паляка з этнаграфічнае Польшчы і ў нашчадка спольшчанага за вякі беларуса. Гэтым шляхам у польскую культуру ўваходзілі і ўваходзяць элементы беларускае нацыянальнае душы (прыкладам: у музыцы — Станіслаў Манюшка, у паэзіі — Адам Міцкевіч і шмат іншых), таксама як праз вонкава «абмаскаленых» беларускіх інтэлігентаў яны ўвайшлі і ў культуру расійскую (Глінка, Дастаеўскі і г. д.).

Але вось у канцы XVIII стагоддзя заходнія вятры прыносяць на зямлю Бацькаўшчыны новыя думкі, ідэі аб волі, аб роўнасці і брацтве між людзьмі ўсіх станаў, аб правах чалавека і грамадзяніна. І таму лепшыя з краёвых інтэлігентаў, хоць і згубіўшых ужо даўно сувязь з «нізамі», пачалі цікавіцца жыццём беларускага сялянства — не толькі матэрыяльным, але і духоўным. А дзеля таго, каб спазнаць душу селяніна, трэба было ісці «ў народ». Нялёгкая была гэтая задача: народ не верыў панам, крыўся ад іх са сваімі думкамі, песнямі і настроямі. Але той, каму ўдавалася растапіць лёд варожасці ў народзе, шырока расчыняў вочы ад здзіўлення, бачачы хараство і багацце яго творчасці. Гэтак было з Зарыянам Даленгай Хадакоўскім. У пачатку XIX стагоддзя ён вандраваў пехатой па беларускіх вёсках і запісваў беларускія абрады, звычаі, песні, казкі, легенды і стаў першым збіральнікам нашага фальклору.

Незвычайна захапляўся беларускай народнай творчасцю і высока ставіў яе Аляксандр Рыпінскі, удзельнік паўстання 1831 г., які эміграваў у Францыю і, жывучы ў Парыжы, чытаў там лекцыі аб беларусах ды пасля выдаў іх у асобнай кніжцы. А. Рыпінскі, які лічыў сваім ідэалам прышчапленне беларускаму сялянству пальшчызны, у гэтай кніжцы апавядае, што меў сшытак з беларускімі народнымі песнямі, з якім ніколі не разлучаўся як з найдаражэйшым скарбам.

І толькі пасля скасавання прыгону ў 1861 г. для беларускага селяніна адкрыўся, урэшце, доступ у школу, адкрылася наогул дарога з вёскі ў культурныя цэнтры. Але першае пакаленне інтэлігентаў, што выйшлі з вёскі, расцерушылася і згубілася ў чужой нацыянальнай стыхіі, бо свайго нацыянальнага асяроддзя там, на «вярхах», яно не знайшло. У цікавай агітацыйнай беларускай брашуры 1860-х гг.—«Рассказы на белорусском наречіи» — паведамляецца, што ў пачатку 1860-х гг. расійскі ўрад, жадаючы заваяваць сімпатыі беларускага сялянства, гатоў быў зрабіць легальным беларускі друк і дазволіць вывучэнне беларускай мовы ў школе. Гэта было выклікана тым, што польскія паўстанцы пашыралі колькасць сваёй агітацыйнай літаратуры ў мове беларускай. Расійцы ж скарысталі ўвагу да беларускай мовы як спосаб супраць агітацыі. З агітацыйных брашур была найбольш пашырана «Гутарка Данілы са Сцяпанам», надрукаваная ў Вільні ў 1863 г. Да ліку агітацыйных кніжак, выданых расійцамі, належаць і «Рассказы». Галоўная думка, якая прасочваецца ў ёй,—«даўнейшых крывічы, а цяперашнія беларусы — не палякі», «бацькі і дзяды былі веры рускай». Словам, асноўная тэндэнцыя ўсёй кніжкі — русіфікатарская.

Артадаксальныя велікарусы коса паглядалі на беларускую літаратуру за яе свецкі і заходнееўрапейскі дух і, як агню, баяліся ерэтычных, «лацінскіх» думак з «Літоўскай зямлі». Той час да беларускай пісьменнасці ставіўся ў тых рэпрэсіўных захадах, якія дакладалі маскоўцы, каб не пусціць на Маскоўшчыну беларускіх кніг. Першы ўказ супраць беларускай пісьменнасці выдаў яшчэ мітрапаліт Філарэт у 1627 г., загадваючы, «чтобы впредь никто никакихъ книгъ литовской печати не покупали». У той жа год у Маскве спалілі «Евангелле учыцельнае» 1619 г. Транквіліёна-Стаўравецкага (настаўнік і прапаведнік у Львове, потым у Чарнігаве) і іншыя творы гэтага аўтара, а «Катехизисъ» Лаўрэнція Зізанія Тустаноўскага надрукавалі толькі пасля цікавага дыспуту з маскоўскімі «спраўчыкамі» і ў перапрацоўцы. Зізаній — протаіерэй, вядомы заходнерускі вучоны, першапачаткова быў выкладчыкам у Львоўскім брацкім вучылішчы, адкуль у 1592 г. перайшоў у Брэст, затым у Вільню, дзе ў 1596 г. выдаў азбуку і славянскую граматыку. Ён быў выхавальнікам у князя Аляксандра Канстанцінавіча Астрожскага ў Яраслаўлі Галіцкім. Прыехаўшы ў 1626 г. у Маскву, Зізаній прадставіў мітрапаліту Філарэту рукапіс свайго «Катэхізіса» з просьбай яго папраўіць. Патрыярх даручыў папраўку багаяўленскаму ігумену Ілью і спраўшчыку Рыгору Анісімаву, прычым, канонт некаторых спрэчных месц у Лаўрэнція Зізанія была з імі гутарка, якая закончылася адмовай яго ад усіх тых меркаванняў, якія былі западозраны маскоўскімі цэнзарамі. Спрэчка аб катэхізісе надрукавана Ціхаравым у «Летапісе рускай літаратуры і старажытнасцей». Нельга, праўда, устанавіць, што катэхізіс Зізанія трапіў у абыходак, хоць і быў надрукаваны ў 1627 г. Мітрапаліт Філарэт не адважыўся выпусціць яго ў свет, бо гэта кніга не была выражэннем веры тагачаснай праваслаўнай царквы, а толькі пісаннем аднаго літоўскага пратапопа, папраўленым двума маскоўскімі грамацеямі.

Ад 1672 г. быў выданы новы ўказ: «во всехъ местахъ всякихъ чиновъ людямъ учинить законъ крепкой съ большимъ подкрепленимем, чтобы те люди польские (зразумела, беларускія.—**Аўт.**) и латинские печати книгъ никто у себя въ домахъ въ тай и явно не держали, а приносили бы и отдавали бы воеводе».

Наогул, нацыянальная культура на Беларусі стаяла тады досыць высока, існавала рэлігійная вольнасць і не было нацыянальнага прыгнёту, так што яўрэі, напрыклад, мелі роўныя правы з усімі грамадзянамі і не было хцівых нацыянальных сутычак з літоўцамі. І тым не менш узнікалі складаныя сітуацыі палітычнага характару. Так, пры перагаворах паміж польскімі і маскоўскімі пасламі ў 1646 г. узнікло непаразуменні адносна мовы ў дыпламатычных зносінах паміж Рэччу Паспалітай і Масковіяй. Польскія паслы напісалі дакумент польскай мовай, на гэта маскоўскія паслы запратэставалі, кажучы: «Издавна повелось, что грамоты королевские къ великому государю пишутся белорусским письмом, и теперь, мимо прежних обычаевъ по-польски писать не годится, да у порубежных воеводъ и переводчиковъ нет». І мова беларуская надалей засталася мовай дыпламатычных зносін паміж Польскім каралеўствам і Маскоўскім царствам да канца XVII стагоддзя (В. Соловьев, «История России», т. X, с. 136). І гэтак вялося не год, і не два, а цэлыя сотні гадоў. Так сталася так, што на Беларусі ўсё роднае, сваё, беларускае, лічылася простым, а чужое, няроднае — «панскім» — расійскім ці польскім. Яно і сапраўды панскае, бо расійцы ў палітыцы, а палякі «тутэйшага родзаю» ў грамадскіх установах панавалі над беларусамі. А за імі, за гэтымі панамі, і сам народ наш перастаў шанаваць сваё роднае і нават саромецца яго.

Пытанне беларускай мовы заўсёды стаяла пагрозліва проста: або мы будзем карыстацца ёю—і яна выжыве, або мы занядбаем яе — і яна знікне. Але ж да гэтага не дайшло. На працягу цэлага дзесяцігоддзя (1906—1915 гг.) легальнага функцыяніравання беларускай мовы ў літаратуру прыйшоў вялікі атрад таленавітых пісьменнікаў з розных куткоў Беларусі. З'явіўся першы перыядычны орган на беларускай мове «Наша Доля», пераемніцай якой стала «Наша Ніва». Распачалася дзейнасць малавядомага ў наш час Віленскага Выдавецтва Барыса Клецкіна (нарадзіўся ў мястэчку Гарадзішча на Навагрудчыне у 1875 г., памёр 18 верасня 1937 г. у Вільні). Яшчэ перад першай сусветнай вайной атрымаў ён у спадчыну ад бацькоў вялікае багацце і заклаў у Вільні «Віленскае Выдавецтва Б. Клецкіна». Выдаваў вядомы друкар кніжкі польскія, яўрэйскія і беларускія і гэтым добра паслужыў справе нашага друку.

Віленскае Выдавецтва Б. Клецкіна абычаго не выдавала. Калі ідзе гаворка аб выданнях беларускіх, дык гэта або творы найлепшых беларускіх талентаў Багдановіча, Арсенневай, Коласа, Ядвігіна Ш. і іншых, або творы, перакладзеныя на беларускую мову еўрапейскай славы пісьменнікаў — Л. Талстога, Гогаля, Караленкі, Купрына, Марка Твэна і іншых, або каштоўныя школьныя падручнікі «Геаграфія Беларусі», «Гісторыя беларускай літаратуры», «Хрэстаматыя беларускай літаратуры», «Беларускі правапіс», школьныя чытанкі, арыфметычныя задачнікі, добрыя папулярныя кніжкі для самаадукацыі: «Расказы аб вялікіх падзеях розных часоў і народаў» — Рубакіна, «Апавяданні аб жывёлах» — Вагнера і г. д.

Як бачым, дзейнасць гэтага дасведчанага чалавека мае важкае для беларусаў культурнае значэнне, і яно тым большае, што рэзка выдзяляецца на фоне зусім іншых адносін да беларускага народа заможнага яўрэйскага грамадзянства. Барыс Клецкін друкаваў для вёскі дзесяткі тысяч беларускіх кніжак і як чалавек высокай грамадскай культуры і сумлення тым самым кідаў у цемру зерні асветы.

У пазнейшыя часы супраць нашай беларускай мовы дзесяцігоддзямі працавалі магутныя дзяржаўныя адміністрацыйна-бюракратычныя структуры, якія ўсяляк тармазілі нацыянальна-культурнае развіццё беларускага народа. У выніку мы маем тое, што маем.

На заканчэнне прывяду словы Язэпа Лёсіка з артыкула «Граматыка і родная мова»: «Мова — гэта душа чалавека, яго краса і аздоба. Мова, як чалавек, павінна шанавацца, паважацца і прыбірацца з кожным разам у лепшыя, багацейшыя і зграбнейшыя ўбранні. Кожнае адметнае слова, кожны асабісты выраз нашых беларускіх гаворак мы павінны сустракаць з пашанаю і — з вялікаю любасцю, як надзвычайную вартасць, далучаць у агульную скарбніцу нашае літаратурнае мовы, а не хавацца за паветалізм, не цурацца і не казаць неразумна, што ў нас гэтак не гавораць... Усё гэта разам злучанае і разумна ўжытае дадае багацця, красы, гучнай ёмкасці і далікатнасці ў літаратуры і людскай размове. Апроч таго, мова так узгадаваная, усімі гаворкамі выпешчаная,— робіцца здатнай, сардэчнай, усім любай і лёгка зразумелай кожнаму, хто хоць крышку падвучыцца».

**Валянцін ГАЛУБОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**


ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў; Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.





Нумар падпісаны ў друк 5.11.92 у 18.10.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.





Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 18068 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12